## ЗЬМЕСТ





1-ая Дзярж. друк. Зак. № 2036. Галоўлітбел № 25387.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі

III год выданьня | Красавік 1927 г. | № 4

## Пытаньні сельскай гаспадаркі на VIII Зьезьдзе Саветаў БССР.

*(З дакладу Наркамземляробства Т. Прышчэпава).*

Пытаньні рэарганізацыі і перабудовы сельскай гаспадаркі на соцыялістычны лад на VIII Усебеларускім Зьезьдзе Саветаў займалі вельмі пачэснае месца. Тут няма ніякай мажлівасьці поўнасьцю іх пералічыць, чаму і пакажам толькі некаторыя лічбы і галоўныя моманты з дакладу Наркамземляробства т. Прышчэпава (падрабязна гл. «Савецкую Беларусь» за 10-IV-27 г.

Уся перабудова сельскай гаспадаркі, як і ўсе мерапрыемствы Савецкай Улады ў гэтым кірунку, праводзяцца на пэўнай матар'яльнай базе. Напрыклад, толькі за апошнія два гады ў сельскую гаспадарку па каштарысу Дзяржаваю было ўкладзена 14 мільёнаў 600 руб., а наогул усяго ўкладзена (прыблізна) 16 мільёнаў руб.

Побач з гэтым расьце папулярнасьць агранамічных мерапрыемстваў сярод сялян, чаму нашы аграномы ня могуць ужо поўнасьцю здавальняць усіх запатрабаваньняў сялянства.

**Пасеўная плошча** сялянскіх гаспадарак ў параўнаньні з 1916 г. вырасла на 30,8 проц. Пры гэтым-жа ў пасеўнай плошчы адбывалася і выразная перасоўка ў бок інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі—процант збожжавых культур з 81,2 (1916 г.) зьнізіўся да 78,1 проц., а процант тэхнічных расьлін, палявых траў і караньплодаў падняўся з 18,8 проц. да 22. Гэты выразны паказчык інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі павінен і далей расьці разам з новым пашырэньнем пасеўнай плошчы пры адваёве плошчы з-пад хмызьнякоў, пусташаў і балот. Тысячы дзесяцін балот, якія ў бліжэйшы час будуць асушаны, патрэбна вырабіць на поле, сенажаць і добры выган. Шэрагам мерапрыемстваў Дзяржавы гэта зараз праводзіцца.

Ураджай нашых палёў таксама ўзьняўся. У параўнаньні з даваенным часам мы маем прыбаўку ўраджаю.

Ураджай нашых палёў таксама ўзьняўся. У параўнаньні з даваенным часам мы маем прыбаўку ўраджаю жыта на 11,7 проц., ячменю—5,3 проц., аўса—3,0 проц., бульбы—28,4 проц.

Але і гэта павялічэньне нельга лічыць здавальняючым. Наша сельская гаспадарка можа мець большыя ўраджаі, калі браць прыклады культурных сялян ці ўраджаі дасьледчых станцый. Гэтых ураджаяў у 100 пуд. збожжа, 2000 пуд. бульбы, а удояў малака ў 100-200 п. мы дабіваемся ў кожнай сялянскай гаспадарцы.

У жывёлагадоўлі (па колькасьці) БССР дасягнула даваеннага ўзроўню; далейшае яе разьвіцьё значна затрымоўваюць частыя кармовыя крызісы. Каб дабіцца тут посьпеху, неабходна правесьці шэраг агранамічных мерапрыемстваў.

Найбольш простыя з іх, як увядзеньне занятага папару, пасеў кармовых каранеплодаў, вякі, лубіну, ачыстка насеннага матар'ялу і інш., сялянства можа ўводзіць само без дапамогі агранома, а ў другіх, як пераход на шматпольле, абслугоўваньне пасёлкаў, машынізацыя і інш., аграном прыходзіць на дапамогу селяніну. Але з тэй прычыны, што зараз аграном не пасьпявае поўнасьцю абслужыць патрэбы вёскі, Наркамзем лічыць своечасовым на спэцыяльных курсах гатаваць з самых сялян арганізатараў новае сельскае гаспадаркі. Такіх арганізатараў на курсы павінна будзе выдзяляць кожная вёска, курсант якое і будзе дапамагаць дарма ўводзіць шматпольле і рэарганізаваць усю яе гаспадарку. Гэта будуць а г р а н о м ы - с я л я н е.

Таксама сярод агранамічных мерапрыемстваў трэба назваць меры па гадоўлі сартовага насеньня збожжа, лёну, насеньня канюшыны, вікі, сэрадэлі, лубіну (так званая кантракцыя насеньня) і працы на пасёлках па пераводу іх на коопэрацыйны статут; пакуль што коопэрацыйны прынцып трэба правесьці ў скарыстаньні с-г. машын, у малочнай гаспадарцы, гадоўлі насеньня і інш.

**У галіне земляўпарадкаваньня** сёлета працы будуць праводзіцца на плошчы 468 т. гэктараў, але гэта здаволіць заяўкі толькі на 15 проц. Аднак, аб'ём працы значны, калі ўспомніць, што да вайны ўсяго было земляўпарадкавана 80 т. гэкт. Поўнае земляўпарадкаваньне будзе праведзена на працягу прыблізна бліжэйшых 7 гадоў.

**У мэліорацыйным будаўніцтве** Дзяржава разам з мэліорацыйнымі таварыствамі ў сёлетнім годзе будзе мець 176 тыс. гэкт. асушанай зямлі. Але асушка балота—гэта толькі пачатак мэліорацыі. Далей мэліорацыйным т-вам неабходна правесьці яшчэ культуртэхнічныя мерапрыемствы і дабіцца добрага ўраджаю. Тут неабходна даць дарогу трактару, які набываць толькі праз мэліорацыйныя т-вы.

**У лясной гаспадарцы** нам трэба дабівацца вядзеньня правільнай і даходнай гаспадаркі, і з гэтай прычыны побач з пытаньнем аб лесе неабходна ставіць і пытаньні аб а г н е т р ы в а л ы м б у д а ў н і ц т в е і с к а р ы с т а н ь н і т о р ф у н а а п а л, бо адна лясная гаспадарка ні ў якім разе не здаволіць патрэб на апал і будаўнічыя матар'ялы. У першую чаргу на апал павінны перайсьці дзяржаўныя і грамадзкія установы (зямельныя органы, РВК, сельсаветы) і прамысловасьць. А лес-жа ўсімі мерамі трэба аберагаць і ахоўваць, каб лясная гаспадарка магла даваць значны прыбытак.

Вось усе гэтыя і шмат іншых пытаньняў сельскай гаспадаркі (аб р а з ь в і ц ь ц і ж ы в ё л а г а д о ў л і, к у л ь т у р н ы х г а с п а д а р к а х, н е д р а б і м а с ь ц і с я л я н с к а й г а с п а д а р к і, з ь м е н а х у с-г. п а д а т к у і інш.) зьвярталі на сябе увагу VIII У с е б е л а р у с к а г а З ь е з д у С а в е т а ў—Г а с п а д а р а К р а і н ы п р а ц о ў н ы х.

Больш агранамічных ведаў у вёску! Больш с-г. курсаў для сялян!

Больш культурных гаспадарак з грамадзкім напрамкам!

Больш культуртэхнічных мерапрыемстваў; больш тэхнікаў, трактараў, угнаеньняў. Вышэй даходнасьць ад «дзікіх» балот.

Больш тарфяных таварыстваў і таварыстваў па агнятрываламу будаўніцтву. Торф у печы і ў хлеў на подсьціл скаціне!

Больш будынкаў з агнетрывалых матар'ялаў!

Далоў бяскорміцу жывёлы! Больш каранеплодаў і кармовых траў!

Далоў падзелы гаспадарак! Шырэй коопэрацыю і новыя формы сельскай гаспадаркі!



# Да Дню Лесу.

«Дзень Лесу»—вясновае сьвята працоўных. Яно мае такое-ж вялікае значэньне, як і асеньняе сьвята «Дзень Ураджаю».

У «Дзень Лесу» ўсе павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на лес. Усе працоўныя ў гэты дзень павінны ўсебакова абмеркаваць, ці ўсё яны зрабілі, каб надалей аберагчы лес ад згубы.

Ня гледзячы на тое, што гэтае сьвята ў нас уведзена толькі тры гады таму назад, яно вельмі пашырылася сярод працоўных. За «Дні Лесу» мінулых гадоў шмат пустыроў і прагалін засеяна лесам.

У адзнаку гэтага дню патрэбна ўважліва выясьніць значэньне лесу ў жыцьці чалавека.

Лес ня толькі хараство прыроды, але і багацьце краю. Без яго нельга абыйсьціся. Ён ідзе на будоўлю, апал і на розныя хатнія патрэбы. З лесу гоняць смалу, дзёгаць, шкіпідар, вырабляюць паперу і цукар.

У лесе зьбіраюць грыбы, ягады, арэхі, у ім пасецца скаціна. Калі лес высякаецца на якія-небудзь патрэбы дзяржавы, то сяляне зарабляюць на гэтым і апрача таго скарыстоўваюць для сябе астачу леса.

Лес мае вялікі уплыў на клімат; ён робіць клімат больш мяккім і вільготным, аберагае край ад засушлівых вятроў. Лес не дае пашырацца сыпучым пяском і замацоўвае глебу сваімі карэньнямі.

Лес сьцеражэ вёскі ад пажараў. У лесе водзіцца дзічына, якая зьяўляецца галінай народнае гаспадаркі—паляваньня.

Лес мае вялізарнае значэньне і для гораду; ён дае матар'ялы для прамысловасьці і кватэрнага будаўніцтва.

У гарадзкіх кварталах паветра перапаўняецца пылам і бактэрыямі розных заразьлівых хваробаў. Ачысьціць-жа паветра можа толькі лес, і чым больш дрэў будзе ў горадзе, тым здаравей у ім будзе жыць. У лесе вельмі карысна адпачываць у вольны ад працы час.

Лес мае вялікае значэньне для паляпшэньня нашых дарог. Так, з лесу робяць масты і інш. Лес ужываецца на апал, а таксама прадаецца за граніцу, чым дае вялікі даход дзяржаве.

Лес аказаў вялікую дапамогу працоўным у часе грамадзянскай вайны і рэволюцыі, замяніўшы сабою вугаль і нафту.

Лес, як галіна народнае гаспадаркі, патрабуе ўмелага кіраваньня, каб даваць найбольш даходу. Гэта праводзіцца праз лясныя органы Наркамзему. Але гэтага мала і ўсе грамадзяне павінны ўважліва адно-

сіцца да лесу, бо плошча лясоў з кожным годам усё меншае і меншае, а каб выгадаваць лес, патрэбна да ста гадоў.

Тыя лясы, што мы маем, выгадаваны ня намі, а нашымі бацькамі; значыць, наш абавязак—выгадаваць лес для нашых дзяцей. Толькі тады лесу хопіць, калі мы будзем абыходзіцца з ім беражліва.

Апрача таго, павялічэньне лясных даходаў ёсьць памяншэньне падаткаў на сельскую гаспадарку.

У якім-жа стане знаходзяцца нашыя лясы? За час вайны лясы месцамі высечаны. Яны бяссыстэмна секліся, як на ваенныя патрэбы, так і самавольнымі парубшчыкамі. Ад неберажлівасьці яны шмат дзе павыгаралі, у іх пасьвілася скаціна бяз выбару. У выніку ўсяго гэтага мы маем па ўсёй Беларусі каля 150 тыс. тэктараў пустыроў і прагалін. Патрэбен шырэйшы ўдзел чалавека і затрата грошай, каб аблесіць гэтыя прагаліны. Трэба хуткая дапамога; аб гэтым трэба падумаць і нам у «Дзень Лесу». Няхай-жа ў гэты дзень моцна застукаюць рыдлёўкі, пашыраючы плошчы лясоў.

Беражэце і сейце лясы!

Абсадзі хату бярозай, асінай, таполяю (ясакарам), і тады ня бойся пажару.

Абсадзеце школы, бальніцы, клюбы.

Ачысьце паркі і сады.

Сяляне, беражэце перададзеныя вам лясы і заводзьце ў іх правільную плянавую гаспадарку.

**Е. Міхасенка.**

---

# Значэньне лесу ў народнай гаспадарцы.

*(З дакладу начальніка ляснога кіраўніцтва на нарадзе лясных працаўнікоў).*

У народнай гаспадарцы Беларусі лес займае адно з галоўнейшых месц.

1. Лес дае чалавеку дзерава, якое ідзе на розныя патрэбы, а таксама і на апал.

2. Лес дае вялікі заработак сялянам. У гэтым годзе на рубцы і вывазках лесу сяляне Беларусі зарабілі каля 12 мільёнаў рублёў. Апрача гэтага трэба дадаць яшчэ пабочнае карыстаньне лясамі. У лесе пасуць скаціну, косяць сена, зьбіраюць грыбы, ягады і г. д., што агулам дае насельніцтву каля 4 міл. руб. Нарэшце паляўніцтва на Беларусі дае дзяржаве даходу каля 1½ міл. руб. Такім чынам, ад пабочнага карыстаньня лесам мы маем даходу каля 17½ міл. руб.

Дрэваапрацовачная прамысловасьць, саматужна-прамысловыя арцелі і саматужнікі-адзіночкі еднаюць больш за 10 тыс. чалавек, якія пры сваёй працы жывуць з лесу. Апрача таго, трэба дадаць, што лес дае даход (не падатковы), які з кожным годам усё павялічваецца.

Так, у 1923/24 г. мы маем з лесу 2.958.353 руб. даходу.
„ 1924/25 „ 6.023.606 „ „
„ 1925/26 „ 20.278.362 „ „
„ 1926/27 „ маем надзею палучыць да 24.200.000 руб.

Такім чынам, нашы лясы штогод прыносяць карысьці каля 50 міл. рублёў.

**Становішча лясной гаспадаркі.** Лясная гаспадарка на Беларусі за час вайны і рэволюцыі зусім заняпала. Толькі ў 1924-25 г. Наркамзем правёў цэлы шэраг мерапрыемстваў, каб адрадзіць лясную гаспа-



Дуб 450 г. Вышыня 50 ар., таўшчыня 2 ар. 6 в. (Аўцюцэвіцкае лясьніцтва, Рэчыцкай акр.)

дарку. Быў зложаны лясны кодэкс, які зацьверджаны ІІ-й Сэсіяй ЦВК'у БССР VI скліканьня ў ліпені м-цы 1924 г. Сутнасьць яго ў асноўным наступная:

а) Лясная гаспадарка складае адзін дзяржаўны фонд.

б) Забясьпечаньне безперапыннага карыстаньня лесам дзяржавы.

в) Здавальненьне патрэб прамысловасьці ў драўніне.

г) Поўнае выяўленьне ўсіх лясных даходаў.

д) Пэўны парадак перадачы лесу мясцовага значэньня працоўнаму сялянству.

Як бачым, лясная гаспадарка павінна зьяўляцца важнай галінай народнае гаспадаркі. Гады заняпаду лясной гаспадаркі замяняюцца яе аднаўленьнем. Цяпер Наркамзоем мае магчымасьць павесьці плянавую лясную гаспадарку.

За апошнія два гады мы ўжо маем значныя дасягненьні. Напрыклад, замацаваны лясны апарат, шмат дзе заложаны пітомнікі, каб разводзіць новыя лясы. Зьвернута ўвага на абарону лесу, ад шкоднікаў (караедаў і лубаедаў), праводзяцца рэмонты лясных будынкаў, праводзяцца леса-мэліорацыйныя работы: замацоўваюцца пяскі, равы і г. д.

У галіне навучальна-дасьледчай працы мы маем лясны факультэт, 2 лясных тэхнікумы, 2 лясных школы, штогодна праводзяцца кароткатэрміновыя лясныя курсы. З'арганізавана лясная вопытная станцыя, якая вядзе навукова-дасьледчую працу. Чытаюцца розныя лекцыі, як карыстацца лесам. Пашыраецца ахова ад лясных пажараў (робяцца лясныя вышкі, праводзяцца тэлефоны).

Зьвернута ўвага на ахову лясоў ад самавольных парубак і нядбайнай пасьбы скаціны. Лясны матар'ял адпушчаецца на патрэбы мясцовай і дзяржаўнай прамысловасьці толькі згодна пляну. Дасягнута значнае павялічэньне ляснoе даходнасьці.

Вызначаны спэцыяльныя правілы для паляваньня. Зроблены крокі да разьвіцьця смалакурэньня і падсечкі сасны. Лес ачышчаецца ад хламу, перастою і ад абгарэўшага дрэвастою.

Як мы бачым, лясная гаспадарка паляпшаецца, але ўсіх гэтых мерапрыемстваў яшчэ мала, каб паставіць яе на належную вышыню.

Ёсьць яшчэ шмат і недахопаў:

1. Лясная гаспадарка БССР моцна разбурана.

2. Дзяржаўны лясны фонд БССР да гэтага часу на 70 проц. не дасьледваны.

3. Лясы нашы разьмеркаваны па раёнах няроўнамерна, чаму malaлесныя часьці вясковага насельніцтва ня могуць блізка дастаць лесу.

4. Гадавая лесасека ня можа здаволіць поўнасьцю ўсіх запатрабаваньняў на лес з боку дзярж. і грамадзкіх установаў і насельніцтва.

5. Плян лясной гаспадаркі слаба ўвязаны з плянамі дзяржаўных і грамадзкіх установаў.

6. Слаба наладжан вучот лясное гаспадаркі.

7. Дзякуючы слабай ахове лесу мы маем шмат самавольных парубак (353.315 куб. мэтр. у год) і патраў. Гэта скарочвае магчымасьць водпуску лесу насельніцтву і паніжае даходнасьць лесу.

8. Насельніцтва мала азнаёмлена з лясной гаспадаркай, і таму шмат хто глядзіць на лес, як-бы яго выкарыстаць толькі дзеля сябе.

9. Лясныя законы Савецкае Улады ня прыведзены ў належную сыстэму. Апрача таго, яны невядомы сялянству, і таму сяляне часта заяўляюць прэтэнзыі стражы, што ня ведалі законаў.

10. Лясны апарат не заўсёды добра наладжаны. Праца цэнтральных установаў слаба зьвязана з мясцамі. Лясьнічыя перагружаны тэхнічнай працай. Кваліфікацыя лясных працаўнікоў нездавальняючая. Час-

тая неналаджанасьць адчотнасьці, часамі растраты лясьніцтвамі дзяржанўых грошай—усё гэта дрэнна адбіваецца на лясной гаспдарцы.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя недахопы і цяжкасьці, мы павінны заўважыць, што мы ўсё-ж такі маем перавагу ў бок паляпшэньня лясное гаспадаркі.

**В. А. Ткачоў.**

---

# Вынікі „Дню Лесу“ ў 1926 г.

Працы, якія выпаўняюцца кожны год на Беларусі ў „Дзень Лесу“, маюць падвойнае значэньне—з аднаго боку, удзельнікі прац навучаюцца, як трэба іх праводзіць і якія спосабы трэба ўжываць пры пасеве і пасадцы лесу, пры закладцы гадавальнікаў і г. д.

З другога боку, усе гэтыя працы даюць шмат карысных вынікаў.

Вось, напрыклад, што было зроблена ў „Дзень Лесу“ у мінулым 1926 г.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Зроблен пасеў лесу на плошчы . . | 433 гэк. | (398 дзес.). |
| 2. Пасаджана лесу на плошчы . . . | 105 „ | (96 „ |
| 3. Закладзена 35 гадавальнікаў на плошчы | 15671 к. м. | (3478 к. с.) |
| 4. Закладзена 8 паркаў на плошчы . | 24616 „ „ | (5415 „ „) |
| 5. Абчышчана лесу . . . . . | 2057 гэк. | (1892 дзес.) |
| 6. Пасаджана прысад усьцяж вуліц і дарог на працягу . . . . | 126 клм. | (118 вёрст) |
| 7. Пасаджана дрэў навокал сядзіб, дамоў і інш. | 46200 шт. | |
| 8. Абгароджана лясных пасадак і пасеваў на працягу . . . . | 1770 п. м. | (832 п. с.) |

Разам з тым, болей чым у 1160 пунктах былі праведзены лекцыі, гутаркі, даклады і г. д.; удзельнікаў у працах і слухачоў было болей 88000 чалавек. Зразумела, што чым больш будзе зроблена прац у „Дзень Лесу“, тым болей атрымае карысьці і дзяржава і грамадзяне, на зямлі якіх робяцца працы. Але трэба памятаць, што толькі тыя працы маюць значэньне, якія зроблены добра і старанна, а інакш і насеньне дарма загіне, і пасадкі ўсохнуць. Апрача таго, неабходна, каб зробленыя працы захоўваліся; дзеля гэтага і пасадкі і пасевы трэба агароджваць, а грамадзяне павінны наглядаць як за аховай пасадак і пасеваў, так і за аховай агарожы.

**К. Іваноў.**

---

# Дрэвы—упрыгажэньне сялібы селяніна.

Дрэвы надаюць сялібе асаблівае хараство; нават адно дрэва, калі яно стаіць каля дому, надае яму прыгожасьць. Ня толькі паасобныя хутары, але пасёлкі і вёскі маюць прыгажэйшы выгляд, калі яны хаваюцца ў зелені. Украінцы здаўна разводзяць вішнёвыя сады каля сяліб.

На Беларусі каля хат найчасьцей можна спаткаць елку, бярозу, ліпу, рабіну, клён, ясень, каштан і дуб. З хваёвых парод маглі-б надаць хараство сялянскаму двару Веймутавая і аўстрыйская сосны, піхта і інш., з лісьцявых дрэў, апрача пералічаных, можна садзіць таполі і жоўтую акацыю, а з кустоў—бэз, баярашнік, біручыну і лох, лісьцяў якіх не чапае жывёла.

Чым больш зелені, тым лепш прыметна сяліба здалёк. Сваім прыгожым адзеньнем у летні час дрэвы надаюць надзвычайнае хараство невялічкай сялібе селяніна. Высокія дрэвы, як вартаўнікі, стаяць побач сялібаў паселка і ахоўваюць іх ад ветру і пажараў. Дзе шмат зелені, там чыстае паветра.

Саджайце дрэвы каля хат! Беражліва даглядайце іх, яны даюць вялікую карысьць.

К. Ж.

---

# Роля лесу ў абароне краіны ў часе рэвалюцыі.

Лес мае вялікае значэньне падчас вайны. З яго робяць розныя ваенныя пабудовы. Салдаты, распалажыўшыся ў лесе, адчуваюць сябе вальней. У лесе ня так шкодны аэропляны, танкі, газы і кулямёты. Апрача таго, лес удзельнічае ў абароне краю сваімі матар'яламі.

У часе грамадзянскай вайны, нашы лясы папаўнялі апалавы недахоп. Калі контррэволюцыя захапіла Данецкі басэйн з вуглём і Каўказ з Бакінскай нафтай, то адзінаю крыніцай апалу быў лес. Але для гэтага высякалася штогод 10—12 мільёнаў куб. саж. драўніны. Секлася тое, што вымагала найменшай траты часу, а іменна: тыя лясы, якія былі бліжэй да транспорту, уздоўж чыгунак і рэчак.

Лясы шмат дапамагалі рэволюцыі і цяпер вымагаюць ад грамадзян уважлівых да сябе адносін.

А. М.

---

# Як весьці правільную лясную гаспадарку ў лясох мясцовага значэньня.

Для вядзеньня правільнае лясное гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня, сялянам неабходна ведаць наступныя асаблівасьці гаспадаркі:

1) Хваёвы лес (сасну і елку) можна сячы ў 80 гадоў, бо ў гэтым узросьце выходзіць найбольш ляснога матар'ялу, які патрэбен сялянству. (Паасобныя дрэвы дасягаюць таўшчыні ад 3-х да 9-ці вяршкоў).

2) Лісьцявы лес (бяроза, вольха і інш.) сякуць у 50-60 гадоў.

3) Сячы лес трэба на лесасеках вузкімі палоскамі ці паасобнымі дрэвамі.

4) Шырыня лесасекаў у хваёвым лесе павінна быць ад 20 да 30 саж.: яна дае магчымасьць абсемяненьня ад сьцяны некранутага лесу; у лісьцявым лесе шырыня лесасекі можа быць 50-60 саж., бо насеньне лісьцявых парод лягчэй і далей разносяцца ветрам.

5) Лесасека заўсёды павінна праходзіць упоперак кірунку ветра. Часьцей гэта бывае з поўначы на поўдзень.

6) Для лепшага лесааднаўленьня лесасекаў у хваёвым лесе пакідаецца да 30 штук насеньнікаў.

7) На тых лясных вырубах, дзе лес не аднаўляецца, трэба зрабіць пасеў ці пасадку лесу пад кіраўніцтвам ляснога спэцыялістага.

8) Прыроднага аднаўленьня лесу на вырубках трэба чакаць ад 3 да 5 гадоў, бо семянікі прыносяць насеньне ня кожны год, а праз 2-3.

9) Як толькі аднавілася лесасека, то прылягаючая сьцяна лесу можа быць таксама высечана.

10) Задзерванелую вырубку можна нават араць у працягу 2-3 гадоў для лепшага аднаўленьня лесу.

11) Пасьвіць жывёлу на лесасеках, у маладнякох, ня вырасшых з-пад морды жывёлы, не дапушчаецца.

12) Калі лес можа аднавіцца праз 80 гадоў, то лесу штогодна можна высякаць $^1/_{80}$ частку плошчы.

13) У маладым густым хваёвым лесе ад 10 да 40 гадоў, а таксама і лесе сярэдняга ўзросту—40-60 гадоў можна сячы паасобнымі дрэвамі з мэтай догляду, але пад наглядам ляснога спэцыялістага.

14) Лес трэба старанна ахоўваць ад пажараў, самавольных парубак і пасьбы жывёлы ў забароненых мясцох.

Вясной пры правядзеньні сьвята «Дню Лесу» кожны селянін павінен падумаць аб узнаўленьні лесу на пустуючых плошчах, каб пакінуць лес сваім дзецям і ўнукам.

**К. Жук.**

---

# Ворагі лесу і барацьба з імі.

Лес павінен быць крыніцаю пастаяннага здавальненьня драўнінаю нашых патрэб ня толькі ў сучасны момант, але і цэлага шэрагу будучых пакаленьняў. Старыя людзі ў вёсцы гавораць: «Эх, былі ня надта даўно тут каля сяла вялікія лясы, а вось цяпер, куды яны падзеліся, і самі ня ведаем!» Але ёсьць і такія вёскі, якія і за 50 вёрст, ня могуць атрымаць лесу на будоўлю, таму што лесу мала.

Адсюль вынікае патрэбнасьць самых беражлівых адносін з боку сельскага насельніцтва да лесу. Кожны ведае, што сасну сьпілаваць можна за 5 мінут, а каб яна вырасла, то трэба ня менш, як 80 гадоў.

Вясковыя дзеці і падрастаючая моладзь павінны памятаць, што калі іх бацькі будуць самавольна драпежна сячы лес, то яны пакінуць гэту моладзь у будучыне бяз лесу. Можна сказаць, што галаўнейшыя ворагі лесу ў наш час, гэта самавольныя парубшчыкі. Калі тры гады таму назад можна было мірыцца з самавольнымі парубкамі, то цяпер гэтага рабіць нельга. Становіцца праступным ня толькі раскрадаць, але і дапушчаць раскраданьне.

Якія-ж меры могуць быць ужыты ў барацьбе з самавольнымі парубкамі?

1) Правільная арганізацыя аховы лесу.

2) Выхаваньне сярод насельніцтва сьвядомасьці і беражлівых адносін да лесу.

3) Удзел у ахове лесу ўсіх сьвядомых грамадзян рэспублікі.

4) Перавыхаваньне грамадзкае думкі вёскі і асабліва моладзі, будучых актыўных удзельнікаў у палітычным і гаспадарчым жыцьці староні.

Лесу ў нас засталося цяпер мала і карыстацца ім трэба разумна. Самавольная парубка лесу ёсьць згуба, бо дрэвы бяруцца ня там, дзе іх мог-бы ўзяць ляснічы. Самавольшчык сячэ і вывозіць ноччу, на-

сьпех і таму наносіць вялікую шкоду маладняку, самасеву і суседнім дрэвам.

Апрача таго, трэба заўважыць, што некаторыя дрэвы прызвычаіліся жыць у цяньку і гэткая раптоўная парубка можа дрэнна адбіцца на жыцьці маладога дрэўца-ценялюба.

Згубна адбіваюцца на лясной гаспадарцы і лясныя пажары, вецер, пасьба жывёлы і шкоднікі лесу, як расьлінныя паразіты і кузуркі.

Ад лясных пажараў у час вайны і рэволюцыі, а таксама самавольшчыны і няплянавай рубкі шмат зьнішчана лесу. З гэтай прычыны цяпер наглядаецца абмяленьне рэк, пашырэньне плошчаў сыпучых пяскоў, засуха—усё гэта наносіць цяжкі ўрон і сялянскай гаспадарцы.

Прычынай пажараў звычайна бывае неасьцярожнасьць з агнём. Бездаглядная цаганіна жывёлы па лясох вельмі шкодзіць ім, бо яна дратуе дравесныя ўсходы, скусвае маладыя ўсходы і падросткі і ўтаптвае глебу.

Жывёлу трэба пасьвіць умела пад наглядам дарослага пастуха і не па ўсім лесе, а толькі там, дзе дазволіць лясьнічы.

Хоць лесу і шмат што шкодзіць, але калі ўсе сяляне пачнуць аднаўляць лясныя гаспадаркі, берагчы лес, памятаючы, што збожжа можна сеяць і жаць кожны год, а лес на адным і тым самым месцы можна сячы толькі праз кожныя 100 год, то правільнай лясной гаспадаркай мы зможам узбагаціць нашу дзяржаву.

Таксатар **Лімантаў.**

---

# Паштовая скрынка.

**Сел. А. Карунчыку.** Вам адказвалі ў № 3. Большасьць Вашых заметак газэтнага характару. Некаторыя скарыстаем.

**Селян. А. Е. Старавойтаву.** Падпіску на другую палову году атрымалі. Пасылаем насеньне суданскай травы (Гл. „Плуг“ № 12).

**Сел. П. А. Місуну.** Як ставіць досьледы, чытайце інструкцыю.

**Сел. А. І. Фурса.** Насеньне можаце купіць у коопэрацыі.

**Сіцынскаму** (Умань). Пішэце па пераробцы садовіны.

**Сел. Новаму** (в. Нізок, Мен. акр.). Выкананьне пастановы зямельнай камісіі праводзіцца Сельсаветам. Дайце яму свой праэкт. Сельсавет можа яго зацьвердзіць, калі знойдзе мэтазгодным.

**Пятроўскаму, Р. Гуржалы, Драздову, М. Дуброўскаму, Ліпкіну, Е. Вейс.**—Рукапісы перададзены ў часопісь Нав.-Дасьл. І-ту. (Луговое семеноводство, З прац лябораторыі, Культура клевера, Кормовый вопрос по Минщине, Хэмічная апрацоўка дрэва, О люпине).

**Сел.-дасьледчыку М. Тарасенку.** Ваш ліст перадалі ў Бюро Сялян—Дасьледчыкаў пры Навукова-Дасьлед. І-це.

**Ад рэдакцыі.** 1. Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх лясных працоўнікаў і сваіх дапісчыкаў пісаць па пытаньнях лясной гаспадаркі.

2. Артыкул **„Новае ў аграноміі“** („Плуг“ № 2 1927 г.) павінен быў быць за подпісам праф. А. В. Ключарова (папраўка).

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ

## Торф, як апал.

Лясоў на Беларусі з кожным годам становіцца ўсё менш і менш. Апалу ўжо не хапае, як для насельніцтва, так і на патрэбы нашае прамысловасьці. Высякаецца лясоў больш, чым іх нарастае. Праз якіх-небудзь 10 гадоў Беларусь з лясной старонкі будзе бязлесным стэпам. Дапусьціць гэтага ні ў якім разе нельга. Беларусь ня мае запасаў каменнага вуголя і нафты, і таму дрыўяны апал мы можам замяніць толькі торфам.

Плошча тарфяных балот на Беларусі раўняецца 400 тыс. дзес. Калі перавесьці гэта на сухі торф, то будзем мець 800 мільёнаў куб. саж. Столькі-ж мы маем зараз і драўніны. Але трэба прыняць пад увагу, што ня ўсе запасы торфу нам вядомы і іх будзе ў $1\frac{1}{2}$ разы больш, як мы думаем. Запасы торфу раскіданы па ўсёй Беларусі і ён ёсьць каля кожнае вёскі не далей 5—10 в.

Насельніцтва заўсёды можа здабываць торф на апал, які часамі бывае лепшы за дровы. Для таго, каб торф добра гарэў, трэба пад наглядам тэхніка асушыць і падрыхтаваць тарфяное балота.

Торф добра гарыць у галяндзкіх, рускіх і інш. печах, толькі полымя бывае трохі меншае. Калі-ж зрабіць у такіх печах паддувала, то торф будзе гарэць такім-жа полымем, як і дровы. Ніякага смуроду ў ежы ад таго, што паляць торфам, ня бывае. Але для таго, каб яго зусім ня было, трэба зачыняць коміны ў печы тады, як увесь вугаль дагарыць. Калі печ вельмі шчыльна зачыняецца дзьверцамі і праз іх ня можа прайсьці чад на хату, то можна, зачыніўшы дзьверцы, адначасна зачыніць і комін, нават калі вугалі і ня ўсе пагасьлі. Там, дзе ўсе прызвычаіліся да торфу, ні адна гаспадыня не пашкадуе, што паліць торфам, а не дрыўмі. Калі гаспадыня толькі пачынае паліць торфам, яна звычайна жаліцца на яго, але пасьля прывыкае і ўсё ідзе добра, бо добра прасушаны торф дае больш цяпла, чым дровы.

**А. Іваноў.**

---

## Больш практычнага ў гэтай справе.

На сходзе, на зьезьдзе, у гутарцы—адно і тое-ж чуеш. Дайце дроў, страдаем без апалу.

Спрачацца аб тым, што наша вёска не забясьпечана апалам, я думаю, ніхто ня будзе. Але мы бачым, з другога боку, што ня толькі лясы, але і дрэвы па дарогах нішчацца, ня гледзячы на суровыя меры супроць лесахішчэньня.

Як-жа выйсьці з гэтага становішча? На гэта адкажа нам кожны, што на зьмену дровам павінен стаць торф. Мне здаецца, што зусім мала робіцца, каб ажыцьцявіць гэта. Напрыклад, у нашай акрузе я

ня ведаю ніводнага гаспадара, які-б скарыстоўваў торф, як апал. Ня бачыў я ў часопісях і газэтах артыкулаў сялян з свае практыкі, як яны ўжываюць торф, як апал. А ўсё гэта таму, што селянін ня ведае за што ўзяцца, а спэцыялістых, якія-б дапамаглі гэтаму, мы ня маем у належнай колькасьці.

Вось чаму яшчэ з леташняга году ў нашай акрузе засталося 3.000 руб. нескарыстанага крэдыту, які быў прызначаны на торфараспрацоўку.

У гэтым годзе неабходна паклапаціцца, каб у кожным раёне торф быў спрабаваны, як апал. Пажадана, каб спэцыялістыя па гэтай галіне друкавалі ў часопісі «Плуг» сталыя артыкулы, прыкладам, па такіх пытаньнях: якія балоты прыгодны для здабываньня торфу, як пабудаваць печ, у якой магчыма паліць торф і прыстасаваць старую для гэтай справы, як утварыць тарфяное таварыства і інш.

Сялянства, перажыўшае апалавы голад, пойдзе гэтаму насустрач. Больш практычнай, паказальнай работы ў гэтай справе.

**М. Тарасенка.**

---

# Тарфяны подсьціл.

Беларусь мае лёгкія глебы; каб атрымаць з іх добрыя ўраджаі, трэба ўносіць шмат гною. Узяць-жа яго няма дзе. Таму і глеба ў патрэбнай меры ня ўгнойваецца: так, заместа патрэбных на гэктар 2.400 пуд. гною кладзецца 400-800 п. З прычыны гэтага і ўраджаі на Беларусі бываюць надзвычайна нізкія. Напрыклад, сярэдні ўраджай жыта 46 пуд., аўса 52 п., бульбы 541 п. і г. д. (ураджай 1923-24 г.). Гною-ж бывае тым больш, чым больш подсьцілу мае скаціна; калі подсьцілу мала, то шмат угнаеньня дарэмна гіне; у хляве робіцца гразь, а ў ёй па калені стаіць скаціна. У такіх умовах скаціна часта хварэе на ногі. Гнойная жыжка перапаўняе хлявы і выліваецца на двор, пападае ў калодзежы і забруджвае ваду; гэта шкодзіць здароўю чалавека. Як бачым, гіне шмат угнаеньня і прыносіцца шкода.

Па статыстычных даных на 1924-25 г. у Беларусі было сабрана 82.300 тыс. пуд. саломы. З гэтага ліку скаціне скормлена 30.400 тыс. п., на пакрыцьцё стрэх і на іншыя патрэбы пайшло 12.700 тыс п. На подсьціл-жа засталося 34.200 тыс. пуд. Між іншым Беларусь патрабуе на подсьціл 101.500 тыс. пуд. саломы; значыцца, недахоп саломы складае 67.300 тыс. пуд. З гэтага мы бачым, што селянін кладзе подсьцілу ў 3 разы менш, чым трэба. Зусім зразумела, чаму сяляне дрэнна ўгнойваюць глебу і таму маюць слабыя ўраджаі. Тымчасам для таго, каб мець гной, патрэбна салома, або яе трэба чым-небудзь замяніць. Сяляне ўжо даўно замяняюць яе сухім лісьцем, яловымі лапкамі і інш. Па ўсёй Беларусі гэтая дабаўка раўняецца 3.300 тыс. кгр. З гэтай прычыны ёсьць яшчэ недахопы, і сяляне ўжо даўно шукаюць, дзе-б знайсьці подсьціл. А подсьціл у нас пад нагамі.

Верхні пласт нашых тарфяных балот—ня горшы подсьціл за салому, а нават і лепшы. Трэба ўзяць рыдлёўку, парэзаць на цэгліны верхні пласт травянога, а лепш мохавага балота і затым іх высушыць на балоце альбо вывесьці к скотнаму хляву пад страху. Перад тым, як імі падсьцілаць скаціну, цэгліны трэба добра памяць. Яшчэ больш

зручна селяніну запасьціся тарфяным подсьцілам з восені, на санях вывезьці пад страху, дзе і прамарозіць цэлую зіму. Летам подсьціл пад навесам зусім высахне і, разьмяўшы, яго можна ўжываць на подсьціл у хлявы. Для аднае галавы рагатае жывёлы трэба ў год 36 пудоў саломы, а для дробнае—4,6 пуд. саломы. Кожны гаспадар можа лёгка вылічыць недахопы саломы. Пуд саломы замяняецца паўпудам сухога тарфянога подсьцілу. Замяняючы саламяны подсьціл тарфяным, мы тым самым зьберажэм салому на другія патрэбы.

Чым-жа тарфяны подсьціл лепшы за салому? Ён лёгка ўбірае смурод хлява, здаравей для ног жывёлы, а галоўнае добра ўбірае ў сябе жыжку ад гною—ў 5 разоў больш за салому.



Падрыхтоўка торфу для ўгнаеньня поля (Дубянецкае мэліярац. т-ва, Чэрв. р.).

Пры тарфяным подсьціле хлявы заўсёды сухія, маюць чыстае паветра і гной дарэмна ня гіне. Подсьціл падсыпаецца пад ногі скаціне, пластом у 3-4 вярш. (13-14 сант.). З першага часу, каб прывучыць скаціну, зьверху торф прысыпаюць саломай. Як подсьціл прамокне, сыплюць новы пласт і г. д. Тарфяны гной вывозіцца на поле разам з саламяным.

На вопытным полі Ціміразеўскае с.-г. Акадэміі атрымалі такія вынікі з тарфянога і саламянага гною:

| Агульны ўраджай зярна і саломы | Без угнаеньня | Саломяны гной (2400 пуд.) | Тарфяны гной (2400 пуд.) |
|---|---|---|---|
| Авёс пасьля бульбы . | 325 пуд. | 425 | 252 |
| Жыта (зярно) . . | 52 „ | 72 | 83 |
| Бульба . . . | 607,5 „ | 768 | 811¼ |

Гэтыя вопыты праверваны сялянамі вёскі Увельле (Ушчэрскай воласьці Клінцоўскага павету, былое Гомельскай губ.) нават на пескавых глебах. Пасьля гэтых вопытаў сяляне той-жа вёскі перайшлі на тарфяны подсьціл, а салому пачалі прадаваць па 30-40 к. за пуд.

Гною стала больш і ўраджайнасьць вышэйшая. Балот-жа на тарфяны подсьціл у нас шмат, купляць іх ня трэба.

Кожны селянін можа лёгка праверыць усё, што тут напісана, і ва ўсім сам праканаецца. На Беларусі ў будучыне шмат хто пяройдзе на тарфяны подсьціл.

**А. Ум.**

---

# Ці патрэбна мэліорацыйным таварыствам уваходзіць у с.-г. коопэрацыю*).

На Беларусі шмат мэліорацыйных т-ваў, але мала якое з іх уваходзіць у сельска-гаспадарчую коопэрацыю. Будучы з'арганізаваны для асушкі балот, яны ў сваёй працы і абмяжоўваюцца толькі гэтым, а аснаўны сэнс мэліорацыйнай коопэрацыі імі забыты. Палучаецца так, што мэліорацыйныя т-вы—гэта група сялян, злучыўшыхся, каб пракапаць канавы, выкарчваць пні, зрэзаць купіны і падняць цаліну, бо аднаму зрабіць гэта цяжка.

Пры правільнай-жа арганізацыі мэліорацыйнае т-вы павінна быць такім аб'яднаньнем сялян, якое колектыўна хоча палепшыць балота, перарабіўшы яго на добрую глебу, затым колектыўна-ж павінна і карыстацца выробленым сенакосам ці выпасам.

У жыцьці мэліорацыйных коопэратываў трэба зусім выключыць усякія прыватна-ўласьніцкія імкненьні. Усё павінна быць колектыўным, нават агульным збыт палучанага сена, не гаворачы ўжо аб супольнай запашцы ці касьбе.

Але наладзіць такую колектыўную работу вельмі цяжка. Наш селянін на працягу доўгага часу прывыкаў быць гаспадаром, уласьнікам. Вось чаму трэба асаблівую увагу зьвярнуць на арганізацыю жыцьця самога таварыства і на вучот. Трэба, каб таварыства жыло ў згодзе, а Праўленьне і Рэвізыйная Камісія—былі працаздольныя і карысталіся агульнай павагай і давер'ем.

Сабраўся сход, кожны член таварыства павінен усё ведаць, каб ня было блытаніны ў розных выліках і разьліках. Для гэтага ўсё павінна быць на вучоце, як даходы, расходы каб ня было так, што ўзносы пабраліся, а куды што дзелася—дакладна ніхто ня ведае, бо кніг ніякіх ня было, запісаў не вялося. Таму і растраты бываюць, і мэліорацыйнай работы да канца давесьці нечым. Дзе недавер'е там таварыства разваліваецца. Хто-ж гэту работу павінен наладзіць? Спэцыялісту-мэліоратару некалі, ён сваёй працай заняты так, што справіцца ня можа. Ды хоць бы ён і меў час, то памагчы ня можа, бо арганізацыйная справа яму незнаёма. Каб гэта ўсё наладзіць, трэба таварыству ўвайсьці ў агульную сетку мэліорацыйнай коопэрацыі.

Коопэрацыя павінна наладзіць работу так, каб зрабіць з т-ва моцна склееныя нізавы коопэратыў. І чым далей будзе паглыбляцца

---

*) У парадку абгаворваньня (Рэд).

праца, тым больш будзе патрэбнай сувязь паміж т-вам і коопэрацыяй. Закупка насеньня, угнаеньняў, розная інвэнтару і збыт палучанага сена—усё гэта зьвязвае сялянскую коопэрацыю з мэліорацыяй.



Праца трактара (Мен. акр.) на Заслаўскім балоце, які атрыманы ў прэмію за пашырэньне газэты „Бел. Вёска".

Калі ўспомніць, што на Беларусі ёсьць больш 600 мэліорацыйных таварыстваў і прыняць пад увагу, што на Гомельшчыне мэліорацыйныя т-вы ўваходзяць у коопэрацыю, і маюць ужо добрыя дасягненьні, то становіцца бясспрэчнай выгада ад такога аб'яднаньня.

Шмат якія мэліорацыйныя т-вы вынесьлі на сабе ўвесь цяжар ад



Канава на балоце.

няправільнай арганізацыі. Было-б вельмі карысна, каб адгукнуўшыся на гэту заметку, яны выказалі свой погляд ці з коопэрацыяй ці без яе мэліорацыйныя таварыствы павінны змагацца з балотамі і зямельнай нястачай.

**А. У.**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Аб паляпшэньні сенажаці.

Нашы сенажаці з кожным годам даюць усё меншы і меншы ўраджай травы. Сярод гаспадароў укараніўся зусім няправільны погляд быццам сенажаць не патрабуе ніякага догляду; гэта вельмі памылкова. Як поле, так і сенажаць патрабуюць ад гаспадара аднолькавай да сябе ўвагі і догляду.

Аднак, трэба адзначыць, што добры ўраджай травы залежыць ня толькі ад пажыўных матэрый у глебе, а і ад другіх прычын. Вось аб гэтых прычынах і трэба сказаць хоць некалькі слоў.

Ураджай травы на сенажацях залежыць ад добрых фізычных якасьцяй глебы. На гэты бок мы і павінны зьвярнуць належную ўвагу. Пры дрэнных фізычных якасьцях глебы перш зьяўляецца недахоп паветра, а без паветра расьліны нормальна расьці ня могуць. Пры недахопе паветра ў глебе працякаюць непажаданыя хэмічныя процэсы, у выніку якіх часта ствараюцца атрутныя для расьлін матэрыі, якія прыгнятаюць іх рост і зьніжаюць ураджай. Мала таго, пры такіх умовах могуць разьвівацца кіслыя травы. Усё гэта і прымушае зьвярнуць належную увагу на нашы сенажаці і заняцца іх паляпшэньнем.

Бываюць два спосабы палепшаньня сенажацяй:

1) Павярхоўнае палепшаньне без пад'ёму дзярніны і 2) палепшаньне з пад'ёмам пласта і ўтварэньнем новай дзярніны (асноўнае палепшаньне).

Спынімся пакуль што на першым спосабе палепшаньня сенажаці, маючы на мэце асьвяжэньне дзярніны. Тут праца пачынаецца з адводу лішкаў вады, калі яна ёсьць, ачысткі сенажаці ад усяго таго, што перашкаджае росту травы, як, напрыклад, куп'ё, кусты, карчавіны і інш. Далей можна прыступіць к баранаваньню. Лепшым часам для гэтай работы будзе восень альбо раньняя вясна, як толькі сенажаць трошкі падсохне і яе дзёрн можа дзяржаць каня. Баранаваць трэба жалезнай бараной, а яшчэ лепш дастаць спэцыяльную лугавую барану Лааке. Можна прымяняць і нажовую барану сыстэмы Аўруса. Гэтым мерапрыемствам зьнішчаецца мох, становіцца вольны доступ паветра да карэньняў расьлін. Наогул-жа дзярніна асьвяжаецца і паляпшаецца фізычная якасьць глебы.

На прабаранованай сенажаці можна палажыць павярхоўнае ўгнаеньне; добры уплыў робіць тамасаўка ў колькасьці ад 10 да 18 пуд. на дзес. і калійная соль ад 5 да 10 пуд. Можна ўносіць і адзін звычайны пячны попел, які ў сваім складзе мае ф о с ф а р і к а л і ды яшчэ каля 30 проц. в а п н ы. Попелу на дзес. патрэбна ад 40 да 60 пуд.

Як добрае павярхоўнае ўгнаеньне для сенажаці, можна раіць гнаёвую жыжку і кампост.

Як мера засьцярогі ад разрушэньня і псаваньня дзярніны, раіцца раньняй вясной на сенажаць ня пускаць жывёлу, якая ўтаптывае дзёран, утвараючы на ім ямкі, дзе можа зьбірацца і застойвацца вада. Акрамя таго, раньняе страўліваньне травы ў час яе найбольшага росту дрэнна адбіваецца на далейшым яе росьце і ўраджаі сена. Ад пасьбы жывёлы пагаршаюцца фізычныя якасьці глебы, бывае слабы доступ паветра ў глебу і г. д.

Калі здараецца, што сенажаці настолькі ўтоптаны, што ні баранаваньне, ні ўнясеньне ўгнаеньняў не падвышае ўраджай, тады прыходзіцца другім спосабам паляпшаць сенажаць. Пры гэтым дзярніна падымаецца плугам, пажадана з вінтавою паліцаю і восеньню. Вясною барануецца залежнымі баронамі, а калі можна дастаць талеркавую барану Рандаля, то вельмі пажадана прайці і ёю разы чатыры накрыж. Далей уносяцца мінэральныя ўгнаеньні ў значна большай колькасьці, як у першым выпадку—тамасаўкі ад 20 да 24 пуд., калійнае солі ад 10 да 15 пуд. Попел можна ўжываць ад 50 да 70 пуд. і больш. Праз тыдзень можна зрабіць пасеў, лепш за ўсё выка-аўсянай мешанінай. Можна сеяць і адзін авёс, але ў кожным разе з падсевам шматгадовых кармовых траў. Калі-ж дзёрн не пасьпеў добра вырабіцца на ральлю і перагніць, дык пажадана рабіць перасеў некалькіх расьлін перш, чым засяваць травы. Так, на другі год пасьля выка-аўсянай мешаніны можна раіць пасеў бульбы альбо іншых асыпных расьлін. На трэці год уносяцца ўгнаеньні і сеецца авёс з падсевам мешаніны шматгадовых кармовых траў. Пры састаўленьні мешаніны трэба мець на ўвазе, каб у склад яе ўваходзілі такія расьліны, якія-б маглі расьці на той глебе, дзе яны будуць высеяны. Як прыклад, можна раіць наступную мешаніну кармовых траў для розных глеб. (Вага паказана ў кілёграмах; 1 кгр.=2½ ф.).

| Чарговы № | НАЗВА ТРАЎ | Для сухіх глеб (сухадольле) | Для вільготных глеб (даліны і нізкія сенажаці) | Для заліўных сенажац. з пяшчанай глебай. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Канюшына чырвоная | 2,4 | 1,6 | — |
| 2 | " шыцкая | 3,2 | 2,4 | 4,0 |
| 3 | " белая | 1,2 | 1,2 | — |
| 4 | Цімафейка | 6,0 | 6,0 | 4,8 |
| 5 | Жытнік бязвусы | 88,0 | 4,0 | 16,0 |
| 6 | Мурожніца лугавая | 4,8 | 5,6 | 6,0 |
| 7 | " чырвоная | — | 2,4 | — |
| 8 | Мятлік лугавы | 3,2 | 3,2 | — |
| 9 | Купкоўка | 3,2 | 3,2 | — |
| 10 | Лісахвост | — | 3,2 | — |
| 11 | Палявіна белая | — | 1,6 | — |
| 12 | Пырнік | — | — | 8,0 |
| | Усяго на дзес. | 32,0 | 34,4 | 38,8 |

Пасьвіць жывёлу па засеяных травах можна толькі на другі год, тыдні праз два пасьля скосу і ні ў якім разе ня трэба пускаць з вясны. Пачынаючы з трэцяга году, кожную вясну альбо восень неабходна сенажаць баранаваць. Адначасна з баранаваньнем можна ўносіць і ўгнаеньне, каб пазбавіцца высіленьня (спустошаньня) глебы. На ўгноеных сенажацях ня толькі павялічваецца ўкос травы, але і значна паляпшаецца якасьць сена добрымі лугавымі травамі, якія на спустошаных сенажацях расьці ня могуць.

Пасьля таго, як палепшана сенажаць і на ёй пайшла расьці новая і добрая трава, трэба з належнай увагай клапаціцца аб далейшым доглядзе за ёю. Толькі пры добрым доглядзе можна заставіць сенажаць даваць штогод высокі ўраджай травы.

**А. Савельлеў.**

(Горы-Горкі, С.-Г. Акадэмія).



Плуг для ўзорваньня сенажаці.

# Сейце рана і добрае насеньне лёну.

**Лён дае ў сялянскай гаспадарцы каля 140 руб. чыстага прыбытку.**

Валакно лёну дае нам адзеньне, а семя—алей і макуху. Алей ідзе да стала, на прыгатаваньне фарбаў, а макуха лічыцца вельмі добрым кормам для скаціны. Пры паказальным кармленьні кароў макухай павялічваўся удой у некалькі разоў.

Лён дае значны прыбытак, калі яго гадаваць на продаж. Вось адзін прыклад з абсьледаваньня Ліозьнянскага раёну, Віцебскай акругі ў 1924-25 г.

| **Даход** з 1 дзес. | **Расход** на 1 дзес. |
|---|---|
| 1. Валакна 30 п. па 8 р.—240 р. | 1. Выраб глебы . . 17 р. 40 к. |
| 2. Насеньня 30 „ „ 1,4 р.— 42 р. | 2. Насеньне . . . 12 „ 50 „ |
| 3. Мякіны 12 п. па 30 к.—3 р. 60 к. | 3. Апрацоўка валакна 113 „ 85 „ |
| Усяго 285 р. 60 к. | Усяго 143 р. 75 к. |

Разумеецца, уся праца была выпаўнена сіламі сваёй сям'і і гаспадарка атрымала даходу 273 р. 10 кап.

Гэта сьведчыць, што ў Беларусі лёнаводзтва зьяўляецца досыць выгадным і куды спадручней у продажы, чым іншыя расьліны палеводзтва.

Але большасьць гаспадароў атрымоўваюць ураджай валакна пудоў 16-18, а насеньня пудоў 20.

Што-ж рабіць, каб мець высокі ўраджай лёну?

1. Трэба глыбока і мякка вырабляць глебу і пры тым пачынаць з восені, бо карэньні лёну слабыя, кволыя і патрабуюць мяккае зямлі. Вось даныя Валакаламскага поля.

| Чым выраблена глеба | Калі была выраблена | Кошт насеньня і валакна ў 1924 г. з 1 дзес. |
|---|---|---|
| Плугам Сакка . . . . | Увосень . . . . . | 438 руб. 40 кап. |
| " " . . . . | Вясною . . . . . | 293 " 80 " |
| | | Розьніца 44 р. 60 к. |
| Сялянскімі плугамі . . . | Увосень . . . . . | 370 руб. 92 кап. |
| " " . . . | Вясною . . . . . | 331 " 90 " |
| | | Розьніца 39 р. 02 к. |

Прызначанае пад лён поле (лепш канюшынішча ці аржоньне) аруць на невялікую глыбіню—1½-2 вярш. зараз-жа пасьля прыборкі канюшыны ці жыта. Па меры зьяўленьня травы, поле барануецца (усяго да восені патрэбны два баранаваньні). Увосень робіцца глыбокая воранка на 4-5 вярш., калі і раней ральля была глыбокай.

Вясною глыбокай воранкі не патрэбна, уся апрацоўка вядзецца бараною, затым ідзе мелкая воранка, а лепш талеркаваю бараною, калі яна ёсьць. Пасьля пасеву поле барануюць ў 1-2 сьляды.

2. Сейце лён на канюшынішчы і ўгнойвайце мінэральнымі парашкамі. Вопыт паказвае такія лічбы:

| На якім полі | Ураджай з 1 дзесяціны | |
|---|---|---|
| | Семя | Валакна |
| На канюшынішчы . . | 32,2 пуд. | 38 пуд. |
| На паўмяккай глебе . . | 27,3 " | 25,3 " |
| Розьніца . . . | 4,9 пуд. | 2,7 пуд. |

Пад лён ня возяць гною, а толькі мінэральныя парашкі (на дзес. супэфосфату 15 пуд., салетры 7 пуд., калійнае солі 9 пуд.).

3. Лён трэба сеяць у шматпольным севазвароце (7 і 8 польле), дзе сеецца канюшына ці бульба. У такім севазвароце карэньні лёну ніколі не хварэюць, што бывае пры пасевах яго на адным месцы, а то і ў трохпольлі.

4. Лён трэба сеяць як мага раней, бо яму патрэбна найбольш вільгаці ў першую палову жыцьця (да зацьвітаньня ў два разы больш, чым пасьля адцьвітаньня). Рана пасеяны лён хутчэй расьце і ня так забіваецца травою.

Тэрмін пасеву для кожнага раёну павінен быць установлены на месцы самімі гаспадарамі пры дапамозе с.-г. гурткоў і аграномаў. Для БССР раньні тэрмін будзе паміж 2 і 15 мая.

5. Сейце ачышчаным насеньнем. Ачыстку рабеце на агрпунктах. Лён вельмі баіцца травы.

6. Сейце лён-даўгунец. Наш мясцовы лён малы, гальлісты і дае кепскае валакно. Даўжыня нашага лёну $^3/_4$ арш., а Пскоўскага 1½ арш., пры тым валакно тонкае і мяккае. Насеньне лёну-даўгунца ў гэтым годзе можна даставаць у с.-г. коопэрацыі і „Льноторге“.

7. Лён трэба сеяць гусьцей (пудоў 6-7 на дзес.). Пры густых пасевах ураджай будзе большы, валакно тонкае і мяккае Палягаць-жа лён ня будзе, калі глебу вырабіць добра.

Вось галоўныя правілы селяніну-ільнаводу. На дасьледчых станцыях усе яны праверены і прызнаны добрымі.

**А. Шатэрнік.**

---

# Праца насеннага таварыства „Новы Шлях“.

*В. Дзехцяроўка, Заслаўскига раёну.*

У пасеўную кампанію насенныя т-вы павінны адыграць досыць значную ролю.

Вось і ў нас у в. Дзяхцяроўцы летась вясной па жаданьню сялян было арганізавана насеннае т-ва «Новы Шлях», якое ў першую чаргу паставіла сваёй мэтай распаўсюджаньне і разьвядзеньне сэлекцыйнага насеньня, а другое, пасеў кармовых траў, як канюшыны, сэрадэлі і выкі, і таксама разьвядзеньня іх насеньня. На гэтыя мэты ўдалося з Белсельбанку атрымаць крэдыту 600 рублёў.

На гэтыя грошы закуплена было 15 пудоў чырвонай канюшыны, 78 пуд. выкі і ня вельмі шмат аўса. Таксама ўдалося атрымаць ад агранамічнага Аддзелу Мен. АКРЗА ў крэдыт 98 пуд. ячменю «Прынцэса» і 15 пуд. аўса «Эхо».

З гэтымі сродкамі без нічыёй дапамогі т-ва «Новы Шлях» і распачало працу, бо трэба зазначыць, што аграномы Заслаўскага раёну ўвесь час сувязі з насенным т-вам ня маюць. Яшчэ ні разу не прыязджаў агроном, каб паглядзець на працу т-ва, ня гледзячы на тое, што сяляне-пайшчыкі насеннага т-ва ня раз зьвярталіся з просьбай аб высылцы на месца агранома.

Насеннае т-ва з першага году свайго існаваньня пастанавіла засеў рабіць пакуль што на сялянскіх палёх, бо з першых гадоў набываць свой уласны вучастак для абсемяненьня зьяўляецца неяк немагчымым, а сеяць сартовае збожжа з простым нельга. З боку Праўленьня т-ва былі прыняты ўсе належныя крокі, каб пайшчыкі сартовае збожжа сеялі асобна ад простага; так усе пайшчыкі і зрабілі.

За год працы насеннага т-ва можна зрабіць некаторыя вывады. Трэба сказаць, што сартовае збожжа на кепскаватых у нас глебах расло добра.

Авёс «Эхо» хоць і ня надта добра рос, але калі ўраджайнасьць аўса па раёну, ў сярэднім з дзесяціны была 49,4 пуд., дык «Эхо» даваў у нас да 60 і больш пудоў з дзес.

Ячмень «Прынцэса» надта добра зарадзіў (аж зямлю драў, як гаварылі самі сяляне). Ураджайнасьць з дзес. ячменю «Прынцэса» бы-

ла ў нас у сярэднім да 80 і больш пуд., а па раёну ў сярэднім просты ячмень даваў 64,4 пуд. з дзес.

Дык гэта-ж першая спроба, а ў далейшым, пры дапамозе агранома, мы здолелі дабіцца большых посьпехаў. Прасартавана было яшчэ летась вясной насенным т-вам 1500 пуд. насеньня пайшчыкаў і ўсіх іншых сялян. Сёлета таксама праводзіцца сартаваньне. У далейшым т-ва думае праводзіць сваю працу ў тым-жа напрамку і думае яшчэ завесьці Шацілаўскага аўса, сартовай бульбы і пшаніцы. Для большага посьпеху працы насеннага т-ва «Новы Шлях» трэба, каб Мен. Акрза і райаграном зьвярнулі на т-ва больш увагі і дапамаглі яму. Напрыклад, у насеннага т-ва ёсьць зараз 300 пуд. сартовага ячменю «Прынцэса», а куды і як гэты ячмень накіраваць, дык т-ва і само ня ведае. А накіраваць зараз у раён 300 пуд. ячменю «Прынцэса» было-б вельмі карысна.

Т-ва «Новы Шлях» хоча ў далейшым закладаць на палёх пайшчыкаў вопытна-паказальныя вучасткі, уводзіць у вёсцы элемэнты шматпольля і г. д.

Насеньне т-ва «Новы Шлях» сваёй працай зрабіла рэволюцыю ў галіне збыту малака. Зараз каля 100 гаспадароў вёскі Дзехцяроўка ды інш. вакольных вёсак колектыўна збываюць малако ў Менскае сялянскае малочнае т-ва. Правільнае кармленьне скаціны ў членаў т-ва яшчэ адсутнічае, тут таксама патрэбна дапамога аграномаў і кантроль асыстэнта.

Нарэшце, перад т-вам гэтым летам паўстае новая праца— гэта збор насеньня канюшыны. Такім чынам, за год працы насеннае т-ва «Новы Шлях» мае значныя дасягненьні і будзе мець яшчэ большыя, калі яму будзе агранамічная дапамога.

**М. Лазарчык.**

(Насен. т-ва „Новы Шлях",
в. Дзехцяроўка Заслаўскага р.).

---

# Фасоля Я. Мароза.

Фасолю ў нас (Лепельскі раён, Барысаўскай акр.) сеюць даўно. Але фасоля—расьліна паўднёвая і не заўсёды добра ўдаецца. Яна часта не высьпявае ў нас, трапляе пад раньнія асеньнія марозы. Ды і часамі замаразкі могуць зашкодзіць фасолі. Звычайна насеньне фасолі бралася прывазное з Украіны. Выпісвалі яго і з розных садовых установў, але не ўдавалася знайсьці такі сорт насеньня фасолі, які-б добра рос у нашых умовах.

За некалькі гадоў да вайны 1914 году ў прэйс-куранце Іммэра з Масквы была агалошана навіна. Быў здабыты новы сорт фасолі пад назвай «Грэцкая». Я дастаў яе на насеньне. Яна вельмі рана пасьпела, але была вельмі нясмачная. Гэту фасолю мы і да цяперашняга часу сеем на завод. Разам з ёй мы патроху сеялі і белай фасолі, якая надта смачная, але, на жаль, сьпее позна і часамі пабіваецца марозам. Зярно гэтай фасолі круглае.

У 1912 г., перабіраючы насеньне Грэцкай фасолі, я ў ім знайшоў 6 зярнят белых. Зярняты гэтыя былі па форме ня круглыя, як наша белая фасоля, а даўгаватыя, як і Грэцкія, якія маюць жаўтаватую афарбоўку. Было адразу відаць, што тыя 6 зярнятак вырасьлі, дзя-

куючы скрыжаванаму апылкаваньню аднэй кветачкі белай круглай фасолі і жаўтаватай Грэцкай.

З пасеяных 6 зярнят узышло ўсяго 3. Красавалі яны блакітным і сінім цьветам, як і Грэцкая фасоля; тымчасам, як белая круглая цьвіце белым цьветам. На наступны год была зноў пасеяна тэта фасоля, якую я назваў «фасоля белая, нізкая Я. Мароза»; красавала яна зноў сінім цьветам. Разам з гэтай я пасеяў два сарты фасолі, якія сеяў раней. Мая новая фасоля ўзыходзіла, расла і сьпела разам з Грэцкай. Такім чынам, новая фасоля палучыла ад Грэцкай—скорасьпеласьць і сіні колер, а ад белай—белы колер зярняці і добры смак.

Мы яе сеялі кожны год. Разывялі вельмі шмат. Хапае і сабе есьці, і на продаж. Наша вялікая сям'я толькі яе і любіць.

У 1921 годзе ў горадзе Віцебску ад агранома Барткевіча мы для вопыту ўзялі спэцыяльна адабраных скорасьпелых 5 сартоў фасолі. Гэтыя сарты ў 1923 г. былі пасеяны разам з нашай фасоляй. Лета 1923 г. было мокрае і халоднае. Наша белая фасоля і 5 сартоў Барткевіча загінулі: ад макраты лісьце паржавела. Захавалася толькі Грэцкая фасоля, якой было пасеяна зусім мала, і наша новая «белая, нізкарослая», якой была засеяна ⅛ дзесяціны. Так што наша новая фасоля ў 1923 г. вытрымала экзамен і мы яе лічым цяпер найлепшай.

У 1925 г. проф. Жэгалаў (Масква, Сельска-Гаспадарчая Акадэмія) выслаў мне два сарты фасолі скорасьпелай—«Трыумф» і «Чорны Валенцін». Праўда, фасолі скорасьпелыя, але вельмі нясмачныя. Далей іх сеяць ня варта было.

З гэтага мы бачым, што наша новая фасоля зьяўляецца найлепшай. Яна, мне здаецца, будзе добра расьці ў трох акругах Беларусі— Віцебскай, Полацкай і Барысаўскай. За пяць год яна заўсёды вельмі добра высьпявала. Сею я яе звычайна ў канцы мая, пасьля коранеплодаў. Напрыклад, пад буракі кладзецца гной, на другі год пасьля буракоў без угнаеньня ідзе фасоля.

Зямля ў нас гліністая, добра захоўвае ўгнаеньне. Як толькі глеба падрыхтована, сахою робяцца гранкі, адна за другой 12-10 вярш. Калі зямля камкаватая, то камкі разьбіваюцца жалезнымі віламі, а пасьля раўнуюцца граблямі. Пасьля садзільнікам намячаецца месца, куды будуць садзіцца зярняты фасолі. Адно зярно ад другога кладзецца на 5 вярш., а як зямля добрая, то на 4 вярш., на дрэннай-жа зямлі зярняты кладуцца разам па 2. На гліністай зямлі паложаныя разам 2 зярняці лепш узыходзяць. Як пойдзе дождж і зробіцца скарынка, то двум зярнятам лягчэй яе праламаць і вылезьці з-пад зямлі. Фасоля «Цьвятная Дэкарацыйная» ўзыходзіць, пакідаючы лісьценкі ў зямлі, як гарох. Фасоля-ж, што ідзе на яду, лісьцені выносіць наверх. Дзеля гэтага лепш садзіць па 2 зяняткі разам, на вяршок глыбіні. Звычайна пасьля ўсходаў ці пасьля дажджу трэба фасолю палоць і ўспульхняць барозны конным культыватарам. Культыватар праходзіць баразною разы два-тры ў залежнасьці ад патрэбы. Калі-ж расьлінкі прымуцца, па баразнах праходзяць асыпнікам ці сахою. Ніколі ня можна дапусьціць, каб фасоля парасла травою.

Сьпелую фасолю рвуць з карэньнем і вяжуць у маленькія снапкі па 2 разам, ды вешаюць на жэрдкі пад страху. Зімою, у вольны час, як няма чаго рабіць, фасоля вылушчваецца рукамі. Зярняты фасолі вельмі далікатныя і калі іх малаціць цапамі, альбо пранікам ці малатарняй, то яны псуюцца і ня ўзыдуць. Іх нельга трымаць у хаце, бо

ад сухога паветра фасоля перасыхае і трацiць усхожасьць. Лепш трымаць у сенях альбо ў сьвірне.

Я апісаў, як лепш садзіць фасолю на хутары ці пасёлку, але ў мястэчку і ў горадзе, дзе зямлі мала, можна садзіць у лехі; на лепшай зямлі—радзей, на горшай—гусьцей.

Я надаю вялікае значэньне фасолі. Маленькі кавалачак зямлі дае, як кажуць, шмат голага зярна, якое зьяўляецца добрым харчам. Нават калі няма ні сала ні малака, то фасоля з алеем добра.

Калі хто з чытачоў часопісі «Плуг» захоча спрабаваць нашай фасолі, то няхай прышле мне канвэрт з сваім адрасам і 8-мі капеечнай маркай. Я ўлажу ў пісьмо пакецік з насеньнем да 15-20 зярнят і бясплатна вышлю. Толькі трэба, каб канвэрт быў з моцнай паперы.

**Я. Мароз.**

(Хут. Фатынь, п/о. Бачэйкава, Віцебскай акр.).

---

# Скасоўвайце межы.

Вясною мінулага году я атрымаў з Дзіцячага Сяла ад проф. Пісарава белы гарох. Профэсар прапанаваў мне пасадзіць гэты гарох поруч з мясцовым. Гэта яму трэба было для таго, каб паглядзець, як яго гарох вырасьце ў нашым клімаце. Для пасеву былі ўзяты два аднолькавых вучасткі зямлі ў 26 саж. кожны. Вучасткі былі разьдзелены паміж сабой мяжой. Мяжа была ўзорана і на яе месцы было пасаджана 7 фунт. бульбы. Плошча, якую мяжа займала, была ў 40 кв. арш. Глеба пад бульбу была ўгноена толькі печным попелам. Пакуль расла бульба, яна тры разы асыпалася. Галінкі бульбы, якія высоўваліся наверх, я раскладваў у розныя бакі, а ў сярэдзіну накладаў пахатнай зямлі, так што пад канец года парабіліся бугаркі. Саджалася бульба ў разараны пласт глебы, а не на цьвёрды, як нашы сяляне робяць. Глыбіня пасадкі ½-1 вярш. Як асыпаў бульбу, то закрываў толькі сьцяблы, а лісьце пакідаў адкрытымі. Лісьце заўсёды павінна быць не заслоненым ад сонца, бо яго сьвятло дае зелень лістком. Зелень-жа выробляе крухмал, які зьбіраецца ў бульбінах. Сьцяблы засыпаюцца зямлёй для таго, каб ад іх маглі прарастаць падземныя прорасьлі, на якіх бульбіны растуць. Пад некаторымі кустамі я знаходзіў да 26 вялікіх бульбін. Усяго-ж я атрымаў ад сямі пасаджаных фунтаў бульбы 2 п. 20 ф., ці ў 14 раз больш, чым пасеяў.

Вось што дала мне адна мяжа ў 40 кв. арш. Хопіць чалавеку на цэлы месяц пракарміцца. Пры такім ураджаі дзесяціна дае 1.350 пуд. Плошча зямлі, занятая межамі ў нашым Саюзе, складае каля 1.000.000 дзес. Засеяўшы гэтую плошчу зямлі бульбаю, мы мелі-б 1.350 мільёнаў пуд. (па цане 30 кап. за пуд) на суму 405 мільёнаў руб.

Апрача таго трэба прыняць пад увагу, што межы—расаднікі ўсякіх шкодных траў. У межах знаходзяць сабе прытулак шкодныя кузуркі.

Трэба разорваць межы!

**Селянін-дасьледчык Г. Шасьцітка.**

---




## Хто павінен займацца сялянскім досьледам.

Той, хто мае на гэта ахвоту, бо бяз ахвоты досьлед ня будзе выкананы, як належыць быць.

Той, хто хаця прыблізна ўмее правільна і культурна весьці сельскую гаспадарку.

Той, хто чытае сельска-гаспадарчую літаратуру, кніжныя і пэрыодычныя выданьні, бо кніжка—ўся аснова селяніна, а асабліва селяніна-дасьледчыка.

Другое, селянін-дасьледчык бярэ на сябе вялікую справу, а загэтым ён павінен правільна і сумленна яе выконваць: паказваць самыя дакладныя лічбы і інш.

Дзяржаўныя-ж установы павінны: а) выпрацаваць інструкцыю і разаслаць кожнаму селяніну-дасьледчыку, б) хоць адзін раз у год зьбіраць зьезды сялян-дасьледчыкаў, в) адпусьціць, калі можна, спэцыяльна на досьледы крэдыт—на с.-г. бібліотэчку, на ўгнаеньні, на пабудову і перабудову хлявоў, на пабудову ям для гнаёвай жыжкі і сілоса, на куплю некалькіх пародзістых парасят ангельскай пароды і некальных цялят, на сэлекцыйнае насеньне.

А ўсяго крэдыту трэба было-б каля 600 руб. Гэта лічба грошай вялікая, але я думаю, што ня ўсе дасьледчыкі і возьмуць яе, бо крэдыт ня кожнаму патрэбен.

Праўда, пры ўмелай працы і стараннасьці культурную гаспадарку можна збудаваць і без дзяржаўнай дапамогі, але гэта цяжка і ня так хутка.

У заключэньне трэба сказаць сялянам, а сялянам-дасьледчыкам асабліва, што для пабудовы культурнай і даходнай гаспадаркі, для правільнага правядзеньня досьледаў нам трэба чытаць і чытаць, бо практыка без навукі, а навука бяз практыкі ўсё роўна, што чалавек без галавы. Тут мы павінны ўспомніць лёзунг тав. Троцкага, які казаў: «Грызіце сваімі маладымі зубамі граніт навукі [1]).

Сел. **Я. Судак.**

---

## Стварэньне Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў.

Для вядзеньня дасьледчай працы сярод сялянства пры Навукова-Дасьледчым Інстытуце імя У. І. Леніна арганізавана Бюро сялян-дасьледчыкаў. Бюро складаецца з 5-ці асоб, у лік якіх уваходзіць адзін прадстаўнік ад сялян-дасьледчыкаў. Усіх сялян-дасьледчыкаў Бюро

---

[1]) Чытайце наступны артыкул (Рэд.)

ставіць сваёю мэтай аб'яднаць у адну грамадзянскую арганізацыю—Інстытут Сялян-Дасьледчыкаў. Аб'яднаньне і ўся дасьледчая праца сярод сялян-дасьледчыкаў будзе весьціся дасьледчымі станцыямі праз сваіх спэцыялістых і асобных практыкантаў Горацкай С.-Г. Акадэміі і з дапамогаю раённых аграномаў, кантроль-асыстэнтаў с.-г. гурткоў, ячэек і г. д. Непасрэдным кіраўніком будзе Савет па дасьледчай працы сярод сялян, які будзе арганізаваны пры кожнай станцыі. У склад Савету ўвойдзе адзін прадстаўнік ад сялян. Агульным кіраўніком будзе Бюро пры Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытуце імя У. І. Леніна. Праца будзеісьці шляхам пастаноўкі досьледаў у сялянскіх гаспадарках, правядзеньнем гутарак, экскурсый, нарад, конфэрэнцый пры кожнай станцыі і агульна-беларускіх конфэрэнцый сялян-дасьледчыкаў.

Інструкцыі, тэмы і схэмы сялянскіх досьледаў Бюро ўжо распрацавала і яны высланы кожнай дасьледчай станцыі і аграномам. Кожны селянін-дасьледчык яе атрымае.

**Бюро сялян-дасьледчыкаў.**

## За працу.

Падышла вясна. Для нас, сялян-дасьледчыкаў, шмат цікавай і адпаведнай працы.

Калі леташні год мы браліся за досьледы амаль бяз усякіх ведаў і практыкі і ўсё-ж такі тыя ці іншыя вынікі нашай гадовай працы маюцца (гл. часопісь «Плуг», аддзел «Сялянскі досьлед»), то ў гэтым годзе мы дасягнем большага. Наша праца пашыраецца. Шмат цікавых і патрэбных тэм можа быць для сялян-дасьледчыкаў. Напрыклад, мы павінны вывучаць больш танныя ўгнаеньні і ставіць вопыты з попелам, лубінам і фосфорытнай мукою. Асабліва трэба зьвярнуць увагу на фосфорытную муку і торф, які ёсьць амаль што ў кожнай вёсцы.

С.-г. складам неабходна паклапаціцца, каб фосфорытная мука была ў гэтым годзе, а то ў леташні год у нас, у Магілеве, я нідзе ня мог знайсьці фосфорытнай мукі ў той час, калі салетры было шмат.

Селянін-дасьледчык **М. Тарасенка.**

(В. Бракава, Магілеўшчына)

## Пачынаю ставіць досьледы гаспадарцы.

Я сын селяніна, нарадзіўся ў 1906 годзе; у гаспадарцы працую бяз бацькі. У сям'і я самы большы. Скончыў двухклясную школу ў 1920 годзе.

У мінулым годзе я займаўся досьледам з капустай і гуркамі. У гэтым годзе я маю на мэце пашырыць свой сельска-гаспадарчы досьлед. Дзеля гэтага я ўжо дастаў у культурніка свайго раёну А. Карнейчыка насеньня суданскай травы, кармовых буракоў, кармовай морквы і лёну-даўгунцу. У гаспадароў нашай вёскі гэтага яшчэ няма.

За зіму я сабраў попелу каля 4 пуд., які будзе скарыстаны для паказальных вучасткаў.

Літаратуры па сельскай гаспадарцы маю багата, як на расійскай, так і на беларускай мове. Галоўная літаратура наступная: кожны месяц

атрымоўваю часопіс «Плуг», «Беларускую вёску», «Крестьянскую газету» і тыднёвы журнал «Красная Деревня». З кніжак маю «Дараднік Вясковаму Гаспадару» 1926 г., «Комсамолец за плугам» і інш. Ахвота да вывучэньня праз досьлед усіх галін гаспадаркі ёсьць вялікая.

Вось чаму аб гэтым паведамляю часопіс «Плуг», які ідзе на спатканьне сялянам-дасьледчыкам [1]).

Сел. **А. Сьцяжко́.**

(В. Горадзень Пухавіцкага р.).

# Як угнойваюць глебу.

Нашы сяляне звычайна падсьцілаюць скаціне цэлай, нясечанай аржаной саломы. Гэта вельмі непрактычна. Горш за ўсё таму, што жыта наша, па большай часьці, малоціцца не малатарняй, а рукамі і салома застаецца цэлай, нямятай і доўгай. Такая салома ня ўцягвае ў сябе сокаў гною. У полі такі гной трудна разьбіваць, а яшчэ цяжэй заараць. Ніколі ня можна разьбіць яго роўнамерна. Каб усяго гэтага ня было, трэба перад подсьцілам аржаную салому перасякаць на дзьве ці на тры часткі.

Яшчэ горш сяляне робяць, калі, вывезшы гной у поле, пакідаюць яго там прасохнуць. Пасьля такой прасушкі ўсе пажыўныя сокі з гною, якія так патрэбны расьлінам, высыхаюць і гінуць у паветры без карысьці. Апрача таго, калі гной доўга ляжыць на полі, ён часамі трапіць па дождж, які змывае акурат усе пажыўныя сокі; дзеля гэтага трэба гной як найхутчэй заворваць, каб усе сокі засталіся ў зямлі. Лепш заграбаць яго граблямі ў баразну. Для таго, каб затрымаць вільгаць у глебе, трэба рабіць запашку на зяб і затрымліваць на полі сьнег. Шмат у каго з нашых гаспадароў не хапае саломы на подсьціл. Я раю з восені назьбіраць лісьця, альбо запасьціся торфам, якім таксама можна падсьцілаць, як і лісьцем.

Мне здаецца, што гною часамі шмат трацiцца без карысьці і тады, калі ім прысьцілаюць зьверху па ярыне—ячменю ці пшаніцы і зусім не заворваюць. Тут таксама шмат пажыўных сокаў прападае дарма.

Пры нашай нястачы гною шмат дзе можна ўжываць мінэральнае ўгнаеньне, але сяляне чамусьці не зварочваюць на яго належнай увагі.

Для ўгнаеньня сенажаці і саду вельмі карысна зьбіраць гнаёвую жыжку ў цэбры, зрабіўшы ў хлявох для гэтага асобныя стокі. Бязумоўна, лепш было-б для затрыманьня гэтай жыжкі парабіць у хлявох цэмантовыя падлогі, але-ж гэта дорага каштуе.

Селянін **Зьм. Усачоў.**

---

[1]) З Вашым доследам над капустаю азнаёміліся. Кірунак працы правільны. У гэтым годзе пастаўце больш выразныя досьлёды. Высылаем Вам для гэтага інструкцыю Бюро Сялян-Дасьледчыкаў (*Рэд.*).

# САДОЎНІЦТВА

## Як вывесьці карону ў яблыні.

Кліматныя ўмовы спагадаюць разьвіцьцю пладовых дрэў у нашым краі. Улетку кароны, напрыклад, антонаўкі, штрэйфлінгу і г. д. шырока раскідваюцца на добрых глебах. У Горацкім памалёгічным садзе маюцца дрэвы антонаўкі (40-50 год), якія дасягаюць да 10 мэтраў (14 арш.) ушыркі. Карона яблыні пад назвай «Баровінка Горацкая» узросту каля 60 год дасягае да 15 мэтраў (22 арш.) ушыркі.

Дасьледваньні Горацкай дасьледчай станцыі сьведчаць, што кароны дарослых яблынь у нашых садох вельмі густыя і пабудаваны зусім неадпавядаюча асаблівасьцям мясцовага клімату. Недахоп у нас прыкмячаецца ў сьвеце і гэта адбіваецца на разьвіцьці расьлін. Во чаму адзіны спосаб, каб больш скарыстоўвалася сіла сьвету—гэта павялічыць адлегласьць паміж дрэвамі, пабудаваць вялікую рэдкую карону. У нашых садох мы бачым, наадварот, вельмі значную гушчыню, што нішчыць дрэвы.

Сонечны сьвет мае выключнае значэньне ў разьвіцьці расьлін. Трэба ведаць, што пладовыя дрэвы сьветалюбы: зацьвітаньне, наліў пладоў—усё гэта патрабуе вольнага доступу сьвету.

Пры закладаньні новых садоў мы павінны адвясьці паміж радамі яблынь 10-12 мэтраў (14-18 арш.). У гэтым выпадку вышыня штамбу павінна быць, як напрыклад для атонаўкі, да 1,5 мэтр. (2 арш.). Кароны на ніжэйшых штамбах зьявяцца значнай перашкодай для апрацоўкі глебы ў садзе.

Лічаць, што з гадавальнікаў прышчэпы павінны адпускацца з лікам да 6 галін. Між тым, як дарослыя дрэвы з гэтакім лікам асноўных галін ствараюць вельмі значную гушчыню карон, з якіх некаторыя (галіны) пазьней гінуць.

Пры дасьледваньні садоў Горацкага раёну вызначылася, што лепшыя дарослыя дрэвы антонаўкі маюць каля 3 асноўных галін.

У выніку сваёй 50 гадовай дзейнасьці ў садоўніцтве Я. Мароз па гэтаму пытаньню даводзіў наступнае: «першыя асноўныя галіны ніколі ня трэба пакідаць лікам да пяці, а заўсёды з трох. Апошняе на практыцы заўсёды лепш».

Такім чынам, пасьля пасадкі саду мы павінны рупіцца, аб тым, каб маладое дрэва мела штамб каля 2 аршын, на якім (вышэй) знаходзяцца 3 асноўныя галіны і паростак верхавіны. Пра запас магчыма пакінуць чацьвертую галіну, якую праз 2-3 гады выразаць.

Добра, калі асноўныя галіны не разьмеркаваны блізка (вывядзены не з чарговых вочак, але праз адно вочка). Другі паверх кароны залажыць трэба ня бліжэй, як на 1 арш. ад першага і ў скла-

дзе ня больш 3 галін. Вывядзеньне другога паверху не зьяўляецца абавязковым. Другі парадак галін, які парастае на асноўных сукох, павінен адыходзіць ня бліжэй 35 см. (8 вярш.) ад месца ўмацаваньня матачных галін да штамбу. За фармаваньнем карон сачыць трэба ў першыя 6 год, галоўным чынам, пасьля пасадкі.

Ня трэба дазваляць, каб асноўныя галіны адносна штамбу ўтваралі разьвілкі (востры кут), якія трэба выправіць пры дапамозе распорак. Калі галіна адвісае, то трэба прыцягнуць яе да штамбу.

Фармаваньне кожнага сорту яблыні павінна мець шчыльную сувязь з асаблівасьцю гэтага сорту і складам кароны дарослых дрэў.

Пэпінку літоўскую магчыма фармаваць першыя 2-3 гады, але трэба заўважыць, яе асобнасьць узросту і ніколі не даваць ёй зусім неадпавядаючыя формы. Калі гэты сорт у 10-12 год ужо выразна вызначыць свой габітус (асобны склад кароны), дык ніколі не перашкаджайце пэпіну расьці, як ён хоча, і не фармуйце. Натуральны рост пэпіну забясьпечвае яму тую багатую ўраджайнасьць, якую мы не наглядаем паміж іншымі сартамі.

З наступаючай вясны садаводаў цікавіць пытаньне ці варта падразаць аднагадовыя галінкі карон у высаджаных прышчэп. Мы лічым, што падразаць неабходна (у антонаўкі зрэзаць ⅓ ад даўжыні галінак), каб ужо ў першае лета атрымаць прырост. У іншым выпадку, калі прыросту ня будзе, праз год патрэбна будзе падразаць двохгадовыя галінкі, ад чаго не магчыма чакаць належных вынікаў. З вясны трэба ўжываць усе сродкі (паліўку, абкапваньне, пакрыцьцё глебы сапрэўшым угнаеньнем і г. д.), каб разьвінуліся маладыя дрэвы і атрымалі буйны рост.

**М. Бурштэйн.**

---

# Парады да культуры дзічкоў.

*Пікіроўка і догляд улетку.*

21. Для таго, каб атрымаць дзічкі з добраю карнявою сыстэмаю іх пікіруюць, г. з. зялёныя, маладыя расткі вымаюць з пасеўных град асобнаю драўлянаю лапаткаю (1), ногцем адшчыпліваюць у іх стрыжнявы корань, пакідаючы 3-4 см. корня і перасаджваюць на новае месца.

22. Лепшым узростам для пікіроўкі будзе той час, калі сеянчык мае 2 лісьцікі-лісьцені і на палову разьвіты першы праўдзівы лісток. Калі сеянчыкі маюць ужо чатыры праўдзівых лісьцікі, пікіроўку трэба спыніць.

23. Адлегласьць для пікіраваных сеянцаў павінна быць 4×4 і ня менш 3×4 вяршкі ў квадрат.

24. Месца пікіроўкі павінна быць добра ўгноеным на пульхнай глебе, якая спраўна пералапачваецца на 4 вяр. і дзе робяцца ня высокія грады 1,1 м.×20 м.×10-13 смм.

25. Пры пікіроўцы спачатку асобным метчыкам (2) разьмячаюць мясьціны, дзе будуць сядзець сеянчыкі. Потым на гэтых мясцох калком робяць ямкі і саджаюць у іх карані простастаўна. Зямлю прыціскаюць з боку.

26. Трэба пільнаваць, каб карэнчыкі ў ямцы не загнуліся і каб сеянчык сядзеў ня мелка і ня глыбока: лісьцені павінны быць над паверхняю зямлі на таўшчыню алоўка.

27. Грады пры пікіроўцы павінны быць ачышчаны ад карэньняў сарніны, добра разроўнены, у стане сярэдняй вільгаці.

28. Пасьля пікіроўкі добра было-б грады пасыпаць кампостам.

29. Зараз-жа пасьля пікіроўкі ўсю граду трэба добра некалькі разоў паліць (лейкаю з дробным рэшатам).

30. Пікіроўку лепш рабіць у хмуры дзень, ці пад вечар, а пікіровачныя грады пакрыць яловымі лапкамі на 2-3 дні. Досьлед паказвае, што больш трэба сачыць за пасыпкаю грады ліставым кампостам і паліўкай, тады прыценка грады яловымі лапкамі, саломай ці шышкамі не патрэбна.

31. У першы тыдзень, асабліва ў сухую пагоду, сеянцы трэба паліваць ня менш 1 разу ў дзень спачатку і паступова перайсьці да паліўкі раз у 2-3 дні і, калі сеянцы прыжывуць, спыніць яе зусім.




Пікіравальны капачык, метчыкі лапка для полкі (Гадоўля дзічак).

32. У працягу ўсяго лета патрэбна палоць зельле і ўспульхняць граду асобнай лапкаю па меры зарастаньня, да 6 разоў у лета.

33. Калі на градах зьявяцца краты, трэба паставіць на доўгім шасту круцёлку з бляшкамі ў хваста. Крот вельмі пуглівая жывёла і ад гуку круцёлкі адыйдзе з град.

34. З тлёю (зялёнай яблынкавай вошшу) змагаюцца так: 1 ф. махоркі вараць 2 гадзіны ў 1 вядры вады, дабавіўшы ½ ф. мыла: у астыўшым адвары, налітым у міску, прамываюць дзічкі з тлёю, нахіліўшы іх асьцярожна над міскаю

**Р. Гуржы.**

(Горкі, Акадэмія).

---

# Як сеяць таматы (памідоры).

Тамат вельмі блізкі родзіч нашай бульбы і па свайму аблічч у падобен да яе, але сьцябло ў яго шмат таўсьцей і вышэй. Радзіма тамата—паўднёвая Амэрыка. У Расіі таматы зьявіліся гадоў 80 таму назад і першы час разводзіліся выключна на яе паўднёвай частцы, бо думалі што гэта расьліна толькі там можа даць добрыя вынікі, але ў сучасны момант тамат гадуецца пры парніковай культуры нават у Паўночна-Дзьвінскай і Архангельскай губ. Шырокаму колу насельніцтва Беларусі гэта расьліна мала вядома, але яна заслугоўвае вялікай увагі, як з боку гароднікаў, так і сялянства. У гаспадарках, якія знаходзяцца побач з рынкам збыту, тамат зьяўляецца аднэй з найбольш даходных культур сельскай гаспадаркі.

Пры нашай працы ў 1926 г. з таматамі ўраджай даходзіў да 60.000 кгр. (на гэктар). Цана на першы збор даходзіла да 50 кап. і болей за кгр., апошнія—20 кап. за кгр. Такім чынам, даходнасьць 1 кв. м. выявілася ў 50 кап., а з гэкт. ў 5.000 р. валавога даходу.

Расходы на 1 гэктар па гадоўлі вызначыліся гэтак:



| НАЗВА РАСХОДУ | Працоўная сіла | | | Кошт у руб. |
|---|---|---|---|---|
| | Кон. | Муж. | Жан. | |
| Кошт гадоўлі расады . | — | — | — | 200 |
| Угнаеньне . . . | — | — | — | 100 |
| Апрацоўка глебы . . | 10 | 5 | — | 26 |
| Пасадка і паліўка . . | 10 | 10 | 50 | 67 |
| Акучваньне . . . | — | — | 70 | 49 |
| Забіўка кольля . . | — | 10 | — | 10 |
| Прышчэпка і падвязка . | — | — | 30 | 35 |
| Ліквідацыя ўраджаю . | 100 | 100 | 200 | 140 |
| Усяго . . | 120 | 125 | 370 | 926 |

Такім чынам, умоўна чысты прыбытак з 1 гэкт. складае 5000—926=4074 руб. Пры гэтым трэба адзначыць, што таматы гадаваліся на вопытным вучастку зусім не для продажу, а для сортаапрабаваньня і значная частка пладоў ішла для навуковых мэтаў.

Калі-ж яшчэ заўважыць, што ў большасьці гаспадарак ёсьць свой гной і працоўная сіла, якую няма дзе прылажыць, то прыбытак будзе яшчэ большы. Для сялянскіх гаспадарак, адсунутых ад рынку збыта, тамат зьявіцца каштоўным прадуктам харчаваньня тым больш, што плады яго могуць ужывацца па рознаму: сьвежымі, марынаванымі, соленымі, як консэрвы і г. д.

Адным з найцікавейшых момантаў у культуры таматаў зьяўляецца выбар сортаў. Найбольш падыходзячым для Беларусі зьяўляюцца сарты: «Аліса Рузвельт», «Спаркс Эрліана», «Кароль раньніх», «Сонечны ўсход», і «Ранейшы з ўсіх». Больш ураджайныя, але позна пасьпяваючыя, будуць «Джон Бэр», «Лепшы з усіх» і «Мінезота».

Па выніках працы з таматамі ў 1926 г. на Белар. Аддзял. Ус. Ін-ту Прыкл. Батанікі з 18 сартамі найлепш сябе выявіў сорт «Спаркс Эрліана» (раньні).

**Характэрыстыка сорту:**

| Назва сорту | Пасеў | Усходы | 1-ая пікі-роўка | 2-ая пікі-роўка | Пасадка ў глебу | Начала сьпеласьці | Апошнія зборкі | % недась-пелых | Ураджай на гэкт (у кгр.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Эрліана Амэрыкі . . . | 3/IV | 8/IV | 17/IV | 9/V | 24/V | 15/VII | 30/VII | 2 | 56.000 |

Здаецца, што культура таматаў не заўсёды добра ўдаецца; адной з галоўных прычын тут зьяўляецца неадпаведны сорт і невыкананьне тых прыёмаў догляду, якія неабходны пры нашых умовах.

**Пасеў** робіцца ў канцы сакавіка і пачатку красавіка ў парніках, або ў скрыначках у хаце, якія выстаўляюцца ў вакне.

**Пікіроўка**—гэта рассадка расьлін у цёплы парнік на больш шырокую адлегласьць з прышчыпкаю доўгіх карэньняў. Асноўнае для данае культуры—палучэньне, здаровай з тоўстым сьцяблом, і трывалае расады, што дасягаецца пікіроўкай. Першая пікіроўка робіцца дзён праз 10-12 пасьля ўсходу на адлеглосьці 4×4 см. Найлепшай тэмпэратурай у гэты час зьяўляецца 20-25. С пры найбольшым доступе сьвету і паветра. Палівань-жа трэба тады, калі верхні слой зямлі прасохне. 2-я пікіроўка можа быць зроблена праз 15-20 дзён пасьля першай з пашырэньнем адлегласьці. К надворнаму паветру расьліны прывучаюцца паступова, каб ня было рэзкіх зьмен тэмпэратуры.

**Выбар месца і апрацоўка глебы.** Сваім шырокім распаўсюджаньнем таматы ўжо паказваюць, што яны прыстасованы да ўсялякае глебы. Амэрыканскія таматагадоўцы патрабуюць ад глебы такіх умоў: 1) адсутнасьць грунтовых вод, 2) пагнойная зямля, 3) добрае і глыбокае апрацоўваньне глебы. Паўночныя і ўсходнія старонкі павінны быць абаронены ад ветру. Таматы ня любяць сьвежага ўгнаеньня, дзеля чаго іх садзяць другім коранем. Але былі вынікі, калі яны давалі вялікія ўраджаі і па сьвежаму ўгнаеньню. У гэткіх выпадках гной вывозіцца з восені і заворваецца. Калі пасадка бывае па другому кораню, то можна ўнесьці мінэральнага ўгнаеньня ў ліку 300 кгр. супэфосфату і 150 кгр. калійнай солі на гэктар.

**Пасадка.** Час пасадкі расьлін у глебу можа мяняцца ў залежнасьці ад пагоды. У сярэднім яна будзе 20-30 мая затым, што раньняя высадка будзе знаходзіцца пад пагрозаю вясеньніх замаразкаў, якіх тамат вельмі баіцца. Пасадка вядзецца роўнымі радамі 75×75 см. пад рыдлёўку. Садзіць патрэбна на 10-15 см. глыбей, чым расьліны сядзелі ў парніку затым, што тамат дае дадатковае карэньне з сьцябла. Усьлед за пасадкаю вядзецца палiўка, пакуль расьліны не пражывуць, а каб расьліны менш пакутавалі ад перасадкі, іх бяруць з кавалкам зямлі.

У нас культура таматаў вядзецца гароднымі гаспадаркамі, дасьледчымі станцыямі з гародным ухілам, с.-г. тэхнікумамі, а таксама Белар. Аддзял. Усес. І-ту Прыкл. Бот. у Лошыцы (б. Любанскага), дзе і можна атрымаць, як насеньне, гэтак і гатовую расаду.

**В. Красачкін.**

# Гуркі.

Ёсьць многа спосабаў разьвядзеньня гуркоў. Аб адным я ўжо пісаў у часопісі «Плуг» № 4 за 1926 г., а на гэты раз хачу пазнаёміць чытачоў «Плуга» яшчэ з адным спосабам.

Я хачу расказаць аб адным спосабе гадоўлі раньніх гуркоў. У старыя часы паны-абшарнікі гадавалі гуркі ў парніках, якія каштавалі ня менш, як іншая ўся наша гаспадарка, а гуркоў хапала толькі дзеля панскага стала.

Мэта-ж маіх досьледаў тая, каб пры найменшай затраце сродкаў атрымаць больш карысьці, каб замест парнікоў самымі простымі спосабамі выгадаваць тую ці іншую раньнюю расьліну.

Каб атрымаць раньнія гуркі па майму спосабу трэба, калі гэта зьяўляецца мажлівым, пачаць клапаціцца з восені. Дзеля гэтага трэба абраць вучастак зямлі па мажлівасьць катлавіну абароненаю дрэвамі, асабліва з паўночнага боку. Выбраўшы больш-менш падыходзячы да гэтых умоў вучастак, неабходна ў той-жа час пасьля зьняцьця ўраджаю добра ўгноіць і ўзараць, а на зіму паскародзіць. Гной на зіму трымае ў зямлі цяплыню, а вясной на гэтым месцы растае раней сьнег і зямля прасыхае раней. Такім чынам, падрыхтованы вучастак зямлі застаецца на зіму.

Акрамя гэтага, з восені неабходна зрабіць некалькі скрынак вышынёй каля чатырох вяршкоў; шырыня і даўжыня—гледзячы па вучастку, які абраны пад гуркі, і колькі патрэбна насеньня-расады. У гэтыя скрынкі неабходна з восені налажыць два вярш. перагною, а паверх адзін вяр. гароднай зямлі і паставіць у хлеве ці ў падвале.

У красавіку (гледзячы па вясьне) трэба падрыхтаваць скрынкі, унесьці ў цёплае і сьветлае памяшканьне, а калі зямля ў скрынках прасохне, то трэба пасеяць гуркі радкамі ад аднаго да двух вярш. адлегласьцю адзін ад другога, прыблізна, як сеюць памідоры. Па меры патрэбнасьці паліваць. Цяплыня ў гэтым памяшканьні павінна быць заўсёды аднолькавай, але цяплыню трэба павышаць, калі зямля на вучастку ўжо пасыпявае, а расада яшчэ не гатова і наадварот. Неабходна пасадзіць гуркі на грады раней, чым яны пачнуць красаваць. Калі хапае гною можна заараць яго яшчэ дадаткова ў градкі, як гэта гаварылася раней («Плуг», № 4 за 1926 г.).

Такім чынам, зрабіўшы грады можна рассаджваць гуркі-расаду на адлегласьці 4-5 вяршкоў радкамі ў шахматным напрамку, каб лягчэй можна было асыпаць.

У абарону ад вясеньніх замаразкаў неабходна па ўсіх кутках вучастка мець некалькі вогнішч і адно ў асяродку. Калі спадзяюцца замаразкаў, гэтыя вогнішчы трэба запальваць; у іх трэба паліць гнілушкі, мокрую салому, мох і інш. Дым пакрывае ўвесь вучастак, а калі гэты вучастак будзе ў катлавіне ці абаронены дрэвамі, то ў ім дым будзе трымацца доўга і прымаразкі не пашкодзяць гуркоў.

Такім чынам можна атрымаць гуркі амаль што на месяц раней.

Уход за гуркамі ў час іх росту звычайны.

Догляд за гуркамі ў час іх росту звычайны.

Сел.-вопытнік **Т. Апет.**

# Жывёлагадоўля



## Летняе ўтрыманьне кароў.

Летняе ўтрыманьне кароў бывае стойлавае і напашнае. Пры стойлавым утрыманьні, каровы на працягу ўсяго лета кормяцца ў хлеве, а на волю выпушчаюцца толькі для пагулянкі. Пераход ад зімняга карменьня кароў да зялёнага корму павінен быць паступовы. Спачатку зялёны корм дабаўляецца патрошку пры кожнай дачы сухога корму. Потым сухі корм паступова замяняецца зялёным і толькі пасьля 2-3 тыдняў можна перайсьці выключна да аднаго зялёнага корму. Хуткі пераход ад сухога да зялёнага корму аслабляе организм жывёлы, растройвае страваньне і зьмяншае удой.

Зялёных кармоў бывае шмат. Але самым лепшым кормам, які сустракаецца ў Беларусі, будзе канюшына, выка, цімафейка, сэрадэля і выка-аўсяная мешаніна.

Колькасьць корму, які аддаецца скаціне, разьлічваецца па яе вазе і удою. У сярэднім на 3 п. жывой вагі трэба даць або 8 фун. выка-аўсянай мешаніны або 5 ф. цімафейкі, альбо 6 ф. канюшыны і г. д. Гэткую-ж колькасьць корму трэба даваць і на кожныя 3 ф. малака. Наогул-жа карове неабходна зьесьці ў дзень прыблізна 3-3½ пуды зялёнага корму.

Пры скармліваньні зялёнага корму ня трэба забываць,, што канюшыны больш 50-60 ф. у дзень лепш не даваць, бо пры скармліваньні большае колькасьці карову можа ўздуць ад разьвіцьця газаў у трыбуху. Гэткі-ж уплыў на карову робіць і скармліваньне зялёнага корму змочанага дажджом ці пакрытага расою.

Ад зялёнага корму удоі кароў павялічваюцца. Гаспадару неабходна заўсёды гэта памятаць і як мага шырэй гэтую якасьць зялёнага корму выкарыстоўваць. А калі да кармовай дачы з зялёнага корму даваць патроху моцнага корму (макуха, мука, высеўкі, зерне), дык можна атрымаць яшчэ больш значнае павялічэньне удояў.

**Утрыманьне кароў на пашы.** Дужай і здаровай жывёла можа быць толькі пры напашным утрыманьні, якое ў нас амаль выключна і ўжываецца. Звычайна, як толькі выган выйдзе з-пад сьнегу і трохі прасохне, скаціна выганяецца на пашу. Выганам служаць самыя дрэнныя сенажаці, нярэдка далёкія ад двара, папары, ржэўнік, сенажаці да заказу іх і пасьля прыборкі сена. Недахоп зімовага корму прымушае гаспадара сьпяшацца выганяць скаціну на пашу нават і тагды, калі трава яшчэ зусім не падрасла, ня пільнуючыся ніякай паступовасьці ў пераходзе да напашнага карменьня. Дача зімовага корму амаль прыпыняецца, і на працягу першых 3-4 тыдняў скаціна ходзіць галоднай, не знаходзячы сабе корму на пашы. Да гэтага далучаюцца яшчэ вялікія прагоны да 10-ці вёрст у дзень, якія яшчэ больш марнуюць скаціну.

Галоўнейшымі недахопамі ў напашным утрыманьні жывёлы трэба лічыць яшчэ адсутнасьць асьцярожнасьці і паступовасьці ў пе-

раходзе да гэтага ўтрыманьня скаціны, няправільнае скарыстаньне пашы, дрэнныя пастухі, няўважлівыя і нядбалыя адносіны саміх гаспадароў да ўпарадкаваньня ўсіх недахопаў лепшага ўтрыманьня жывёлы. Гэтыя недахопы і зьяўляюцца галоўнымі прычынамі стратнасьці нашае жывёлагадоўлі. Раздойваючы ўплыў зялёнага корму пры ўсім гэтым не выяўляецца тады, як летні пэрыод самы малакагодны.

**Як-жа выправіць недахопы напашнага ўтрыманьня жывёлы?** Першае,—ня трэба сьпяшацца з выганам кароў на пашу вельмі рана, пакуль трава яшчэ не падрасла, бо скаціна траціць шмат сілы на вышуканьне сабе корму, ходзіць галоднай, худзее і збаўляе удой Апрача таго, ад раньняе пасьбы псуецца выган—дратуецца карэньне шматгадовых траў, зьяўляецца куп'ё і ямкі. Трэба даць траве на выгане падрасьці прыблізна на 2 вяршкі і тады выганяць скаціну.

Але, каб мець магчымасьць не сьпяшацца з выганам скаціны і даць траве падрасьці, неабходна гаспадару ад пачатку стойлавага зімовага ўтрыманьня—з восені зрабіць маленькі падрахунак корму, які ёсьць у гаспадарцы і разьлічыць прыблізна, на які тэрмін і на якую колькасьць скаціны яго хопіць. Калі па разьліку гаспадара корму да вясны не хапае, дык трэба дакупіць яго з восені па больш таннай у той час цане альбо паменшыць колькасьць скаціны на зіму. Карысьней трымаць менш скаціны, але карміць яе добра, чым трымаць шмат, але карміць бяз толку. Часта ў гаспадарцы бывае так, што ў пачатку зімы, калі ёсьць шмат сена і саломы, кароў кормяць вельмі багата, хаця яны ў той час звычайна бываюць сухастойнымі. Недахоп корму к вясьне—гэта галоўная прычына, якая гоніць скаціну без пары на пашу.

**Пераходзіць да напашнага ўтрыманьня жывёлы трэба паступова.** Першыя 3-4 дні кароў выганяюць на пашу ня больш як на 3-3½ гадзіны, пакарміўшы іх наперад звычайным парадкам: сенам—у колькасьці 7-8 ф., паранаю сечкаю, абмешанымі высеўкамі ці мукою. Пад'еўшая скаціна не накідваецца пратавіта на траву, а карыстаецца выганам, галоўным чынам, для пагулянкі.

У першыя дні выгану кароў на пашу магчыма зьніжэньне удояў, бо жывёла траціць шмат корму на хадзьбу. А затым у поўдзень і вечарам трэба яшчэ падкармліваць кароў моцным кормам (макуха, высеўкі, мука розная і г. д.), колькасьцю ад 2 да 4 фун. у дзень. Такога пэвялічанага кармленьня трэба трымацца на працягу 7-10 дзён. Больш доўгі час каровы пачынаюць пасьвіцца з пятага дня. Трава да гэтага часу значна падрастае і каровы неахвотна пачнуць есьці дадзены ім сухі корм дома. Тады ідзе паступовае скарачэньне кармовае дачы. Менш смачны корм у поўдзень не даецца. У хуткім часе, калі паша добрая, каровы адказваюцца ня толькі ад паўднёвае дачы, але і ад вячэрняе. Паядаецца толькі раніщні корм.

Перад выганам на пашу ў кароў аглядаюцца капыты і, калі яны вельмі адрасьлі за зіму, дык іх абразаюць; недагляд за капытамі можа дрэнна адбіцца на карове; яна будзе кульгаць і зьніжаць удоі.

**Скарыстаньне выгану павінна быць наладжана правільна.** Для таго, каб выган не вытаптываўся і трава добра адрастала, яго разьбіваюць на вучасткі і скармліваюць іх па чарзе. Так, калі будзе страўлены апошні вучастак, на першым пасьпела адрасьці новая трава. Д о б р ы  п а с т у х—л е п ш ы  п а м о ц н і к  г а с п а д а р у. Статак павінен даручацца толькі вопытнаму і пэўнаму пастуху. Пастух павінен быць уважлівым і руплівым. Ён не павінен трымаць бяз толку кароў у кучы, а даць ім добра паесьці, а потым своечасова напаіць.

Апрача таго, пастух павінен ведаць, дзе і якія растуць шкодныя для скаціны травы (пралеска, казялец, елка і інш.), гэтак і тыя травы, якія маюць дрэнны уплыў на якасьць малака (часнок, палын, мята); кароў туды ня трэба пушчаць.

**Пасьба скаціны на прывязі.** Пры недахопе прыродных выганаў даводзіцца скарыстоўваць для пашы палявыя пасевы кармовых траў (канюшыны, выка-аўсянае мешаніны і інш.). У гэтым выпадку лепш за ўсё пасьвіць скаціну на прывязі. Кароў прывязваць пры гэтым да жалезнага кала з колцам і вяроўкаю даўжынёю $1\frac{1}{2}$-2 саж.

Кол забіваюць на рагу вучастка, каб карова не затаптвала адразу шмат травы. Потым паступова, па меры страўліваньня, кол перабіваць на новае месца—бліжэй да нязьедзенае травы. А каб карова не запутвалася ў вяроўцы і не вырывала з зямлі кала, яго забіваюць на ўзровень зямлі, а вяроўку прывязваюць да морды каровы пры дапамозе асобае вобраці з дзьвюма дошчачкамі, якія сьціскаюць морду каровы і не дазваляюць ёй вырываць кол. (мал.).



Паша каровы па дацкаму спосабу.

На працягу дня перабіваць кол разы тры. Такім чынам, вучастак пры пашы на прывязі паступова і роўнамерна выпасваецца. затаптваецца.

Пасьба на прывязі мае вялікую перавагу перад іншымі спосабамі пашы. Пры гэтакай пашы на невялікай плошчы (1 дзес.) можна пратрымаць на працягу лета да 3-х кароў. Апрача таго, у невялікіх гаспадарках можна абыйсьціся без пастуха.

**Падкармліваньне кароў моцным кормам** робіцца ў той час, калі паша вельмі кепская і каровы пачынаюць зьніжаць удоі. Даваць моцнага корму трэба ў колькасьці 1-2 фун. і болей у залежнасьці ад павялічэньня удояў і аплаты корму.

Даныя летняй падкормкі па Чэрвенскаму раёну ў 1926 г. у в. Слабадзе, Калодзежскага с-с. гэта падкрэсьлілі. Падкормка вялася ў 4 грамадзян вёскі з 4 да 18 ліпеня. Вынікі атрыманы наступныя: у Грыбка Івана карова мясцовай пароды, 17 пудоў вагою, пасьля 4 цялят і на $5\frac{1}{2}$ м-цаў даеньня давала на пасьбішным корме без падкормкі 6 фун. малака ў дзень; тая-ж карова пры падкормцы $2\frac{1}{2}$ ф. макухі і $1\frac{1}{2}$ фун. высевак стала даваць $11\frac{1}{2}$ фун. малака. Удой павялічваўся на $5\frac{1}{2}$ ф. або на $27\frac{1}{2}$ кап. пры кошту падкормкі 13 к. Такія-ж вынікі дала карова і селяніна Міколы Ламакі.

Разьмеркаваньне самаго часу пасьбы на працягу дня залежыць ад пагоды. Вясною і першую палову лета скаціну можна выганяць на пашу пасьля ранішняе дойкі і пасьвіць да вячэрняе дойкі. К поўдню-ж для дойкі трэба падганяць статак бліжэй да сяла, калі паша ня надта далёка, а інакш даіць кароў на пашы. **М. Канавальчык.**

# ДЗЯРЖАЎНАЯ ДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Як лепш будавацца *).

У папярэднім нумары «Плуга» было разгледжана ў агульных рысах аб выбары месца пад сялібу, разьмеркаваньне на сялібе паасобных будынкаў і г. д.

Цяпер-жа скажам аб кожным будынку сялібы ў паасобку, з больш-менш падрабязным апісаньнем. Трэба адзначыць, што тут будзе дадзена апісаньне пабудовы драўняных будынкаў, якіх у нас на Беларусі пакуль-што больш будуецца. Што да пабудаваньня агнятрывалых будынкаў, то для іх пакідаецца такое самае расплянаваньне, а дзеля атрыманьня пэўных падрабязнасьцяй аб матар'яле і інш. належыць зьвярнуцца ў Аддзел Агнятрывалага Будаўніцтва НКЗБ (Менск, Наркамзем БССР), або ў зямельныя аддзелы сваёй акругі.

**Хата.** Будуючы хату ці іншую гаспадарчую будыніну, трэба мець заўсёды на ўвазе, што выдадзеныя грошы ніколі не варочаюцца, а хата яшчэ вымагае штогодняга дакладу ў якасьці страхоўкі і г. д. Вось чаму, будуючыся, трэба зьвяртаць вельмі пільную ўвагу на тое, каб будыніна была як найбольш трывалай, цёплай, мела-б адпаведны расклад у сярэдзіне, які адпавядаў-бы нашым мясцовым пэўным навыкам і г. д/ і г. д., каб хаця як-бы ў зварот проц. на патрачаныя грошы, як чалавек, так і жывёліна адчувалі-сябе больш здаровымі, бадзёрымі.

Дапамагаючы нашаму гаспадару-будаўніку, у далейшым пастараюся, каб даць па магчымасьці хаця некаторыя практычныя парады.

Каб хата была трывалай, неабходна старацца дастаць бярвеньне хваёвае, сухое (хаця-б двухгадовай лежкі), па магчымасьці старадрэвіну больш стрыжнёвую.

Пара раз на заўсёды адмовіцца ад прызбаў (заваленка), якія толькі дапамагаюць зьбірацца вільгаці і скарэйшаму гніцьцю сьцен, асабліва ніжніх вянкоў, а таксама зьяўляюцца рассаднікам утварэньня самага небясьпечнага ворага драўлянага будынку, гэта асаблівага грыбка (Merulius lacrumans), які ў некалькі год можа зруйнаваць будынак дашчэнту. Сьцерагчыся гэтага грыбка трэба вельмі ўважліва, асабліва цяпер, калі дрэва для пабудовы ў большасьці ўжываецца маладое і ня вельмі сухое. Ёсьць многа ўсякіх спосабаў, як пазбавіцца ад гэтага грыбка там, дзе ён завёўся, але пэўных вынікаў гэтыя спосабы не даюць, а дзеля гэтага найлепш яго асьцерагацца. Каб засьцерагчы-

---

*) Глядзі Плуг № 3.

ся ад гэтага грыбка, то неабходна на тым месцы, дзе маецца быць будынiна, зьняць верхнюю зямлю i ёю не карыстацца пры будоўлi, хату ставiць на фундаманце i на падмуроўцы, i нiякiм чынам не запускаць вiльгацi.

На месцы, абраным пад пабудову хаты, робiцца разбiўка (разьметка) ўсiх вуглоў хаты, дзе i забiваюцца калочкi. Памiж калочкаў нацягваецца шнурок (гл. мал. № 1), па абодвых бакох якога адкла-







Мал. 1.

Як рабiць разметку фундамэнту для хаты; а—20 сант.

Малюнак фундаманту, падмуроўка i частка зрубу хаты. Фундамэнт глыбей робiцца пад вуглямi зрубу (слупкi); a=падмуроўка b—глыбiня фундамэнту пад вуглом зрубу (1—1½мэт.), c—выступ глыбiнi слупка(60 см.—1¹/₁₀ мэт.).

даецца па 20 см. (4½ вярш.) i праводзiцца метка па зямлi лапатай (мал. № 1) рыдлёўкай, якiя будуць азначаць шырыню канаўкi дзеля фундаманту пад хату. Па азначанай метцы капаюць канаўку глыбiнёй пад вугламi хаты ня менш 1 мэтра (1½ арш.), а ў прамежку можна капаць i мялчэй 40 см. (½ арш.); такiм чынам, фундамант будзе выглядаць, як быццам з паасобных слупкоў (пад вугламi хаты) i са




Мал. 2.

Як вязаць правiльна вуглы хаты ў „нямецкi" вугол.
А—лапа
В—лапа з прысекам (b)
С—лапа ў паўдрэва (гэты спосаб ужываюць часьцей для вязкi падрубаў).

сьценкай памiж iмi (мал. 1, направа). Выкладна фундаманту, у гатовай канаўцы робiцца або з добра выпаленай цэглы (вiшняк-цэгла), або з каменя, якога ў большасьцi мясцох на Беларусi хапае. Кладка фундаманту з цэглы вядома кожнаму муляру, а кладку з каменя патрапiць i сам кожны гаспадар, асаблiва патрапiць той, якi наскладаўся крушняў

на межах свайго поля, ачышчаючы яго ад каменьняў. Галоўнае пры закладцы фундаманту, каб важкія камені ўкладаліся на ніз і каб яны былі складзены адзін каля аднаго не паддаючыся хістаньню. Зложаны такім спосабам камень да ўзроўня з паверхняй зямлі, залівецца да адказу вапеннай рашчынай (1 вядро гашанай вапны, 2 вядры чыстага пяску і 5-8 ведзер вады); добра, калі зьяўляецца магчымым дабавіць да вапеннай рашчыны перад самой залiўкай крыху цэмэнту (¼ вядра). Зроблены і па магчымасьці выраўняны такі фундамант гатоў для далейшай выкладкі на ім падмуроўкі, якая выкладаецца таксама або з цэглы, або і з каменя; ў апошнім выпадку раіцца для большай трываласьці ў рашчынку дабаўляць цэмант. У падмуроўцы ў некаторых месцах пакідаюць ваконцы дзеля праветрываньня з-пад падлогі. Падмуроўка робіцца зьверху зусім роўнай (пад ровень грунтвагі) і вышынёй над зямлёй ня ніжэй 35 см. (½ арш.).

Паверх зробленай падмуроўкі кладуць першы вянок (падруб), першую зьвязь сьценак; дзеля пэўнай засьцярогі іх ад вільгаці (якая з грунту можа ўсмактацца па фундаманце і па падмуроўцы) і гніцьця, пад падрубы паверх падмуроўкі належыць палажыць ці бярösту, ці папку (толь), прыціснуўшы 1 вяршковай дошкай, якую перад гэтым належыць добра замазаць гарачым дзёгцем (гл. мал № 4, п). Каб выпадкова не прамерзала падлога ў стыку з панадворнымі сьценкамі, належыць уздоўж падмуроўкі з нутра, пад самую падлогу насыпаць вал зямлі (гл. мал. № 4,). Для засьцярогі-ж падмуроўкі ад пранікaньня вільгаці ад вады, якая сьцякае з боку, належыць уздоўж усёй падму-

**Нармальная прыгонка бярвеньняў** (драчка). a—прыгонка (прыдрачка) бярвеньняў ня менш 13 сант. b—21 сант., c—праслояк паклі ці моху, –d—таўшчыня бярвеньняў каля 22—27 сант.



A Мал. 3. B

**B. Паўтара створныя дзьверы.** Адна палова—²/₃усёй шырыні дзьвярей. а другая ¹/₃ шырыні.

роўкі з панадворку выкапаць лажбінку, набіць глінай і вымасьціць каменьнямі са скатам ад хаты (гл. мал. № 4).

Рубка зрубу праводзіцца, як усім вядома. Заўважым на некаторыя дробязі, але вельмі важныя. Дзеля эканомнасьці матар'ялу і большай трываласьці вуглы хаты належыць прысякаць на так званы «нямецкі вугал». З прычыны таго, што ня кожны мо' цесьля правільна ўмее сячы гэты вугол, прыкладзены малюнак досыць выразна выяўляе гэта (мал. 2). Прыдрачка (прыпасоўка) бярвеньняў зрубу сьценак павінна быць вельмі акуратная і ня менш, як 3 або 2½ вярш. (12 см.) гл. мал. (3 і 2). Акуратна належыць пералажыць драчку і вуглы пакульлем, або мохам і кожны год, у працягу 2-3 год, акуратна праканапачваць. Пасьля поўнай асадкі сьценак неабходна вуглы абшыць (абшаляваць) па войлаку дошкамі.

Бярвеньня для зрубу панадворных сьценак павінны быць утоўшчкі 5½-6 вяр. (22-27 см.); калі ўжываць бярвеньня танейшыя, то неабходна іх з сярэдзіны хаты атынкаваць, а з панадворку шаляваць: інакш будуць прамярзаць, і ў хаце завядзецца вільгаць. Трэба адзначыць, што атынкоўка з сярэдзіны вельмі карысна для забясьпекі ад

хвароб,—не заводзяцца клапы, прусакі і ўсялякі пыл, якія зьяўляюцца асяродкам усялякай пошасьці (тыфус, грып, шкарлятына і інш.).

Падлогу і сталяваньне патрэбна рабіць вельмі акуратна, бо ад гэтага залежыць цяпло ў хаце. Падлога павінна быць дубальтовая, г. зн. паміж легаром (па прыбітых да легароў латах) кладуцца дошкі, могуць быць вершкавыя аполкі, якія замазваюцца глінай зьмешанай з сечкай і друзам некалькімі пластамі, даючы магчымасьць кожнаму пласту прасохнуць перш, чым накладаецца другі пласт; агульная таўшчыня 2-3 вярш. (9-13 см.). Паверх такой чорнай падлогі, па легарох кладзецца звычайная чыстая падлога з 1 вярш. дошчак, добра калі яны прашпунтаваны. Такім-жа спосабам робяць і столь, толькі розьніца тая, што паверх замазкі засыпаюць пяском такім слоем, каб ён засьцілаў бэлькі на які вяршок (4½ см.). Зьнізу па бэльках робіцца падшываная столь у накладку з габляваных дошчак, аднак, магчыма не габляваць, але тады належыць з нутра падклеіць паперай і пабяліць (гл. мал. 4—А і В).

Сьвет і паветра—гэта здароўе чалавека, а атрута дзеля ўсякіх пошасьцяў. Наш селянін-земляроб кажа: «Высокая хата, з вялікімі



A Рыс. 4. B

**А Дэталь фундамэнту, падмуроўкі і падлогі.**
А—глыбіня слупка 1—1,5 мэтр.
В—фундамэнт паміж слупкамі 35—40 см.
С—вышыня падмуроўкі 35—50 см.
a—подруб, b—чыстая падлога, c—змазка з гліны, сечкі і друзу, d—таўшчыня легара, e—чорная падлога (можа быць з абапалак) k—лата, m—дошка 1-вярш. прасмоленая, n—бяроста ці папка (толь), o—адліў.

**В. Дэталь стопі:**

a—пясок (10 сант.).

b—гліна з друзам і сечкай (9 сант.).

c—чорная столь з дошчак ці абапалак.

d—лата, паз.

e—чыстая падшыўка.

A—адлегласьць асяродку бэлькі да асяродку—1 м.

вокнамі—халодная», але гэта ня зусім так; калі трэба будзе яе будаваць, раіцца хату рабіць увышкі (ад падлогі да столі) ня менш 4 арш. (2,85 мэтр.), а вокны належнай велічыні (2 арш. 4 вяр.×1 арш. 4 в.= 1,6 м.×0,9 мэтр.) і абавязкова з дубэльтамі (зімовыя); кожная камора павінна мець у вакне фортачку.

Дзьверы на вёсцы ў хатах робяць шырокія і аднастворныя. Што шырокія, так гэта зразумела, бо часта прыходзіцца насіць вялікія цабры, мяшкі са збожжам і г. д., але аднастворныя дзьверы пры вялікай шырыні нявыгодны тым, што пры кожным адчыненьні іх (нават праходзячы ўлегцa) упускаецца многа холаду ў хату. Раіцца рабіць дзьверы паўтарастворныя, на якія менш патрэбны матар'ялу, як на двухстворныя і ўшыркі яны адпавядаюць вымаганьням гаспадара і гаспадыні (мал. 3, В).

П е ч к а зьяўляецца аднэй з важнейшых частак ў хаце, бо яна служыць для гатаваньня стравы як для людзей, так і для жывёлы; у ёй пякуць хлеб, сушаць збожжа, на печцы сушаць адзежыну і яна-ж (печка) абаграе хату і г. д. Вось дзеля гэтага на будоўлю печкі нале-

жыць зьвярнуць асаблівую увагу. Недахоп месца ў часопісі не дазваляе даць у гэтым апісаньні падрабязныя веды аб пабудове печкі, але прыкладзены малюнак з большага дасьць патрэбныя ўяўленьні аб варыстай печцы [1]) (г. мал. 5). Наогул-жа трэба адзначыць, што печка павінна ставіцца на фундамэнце і мець свой самастойны комін, зложаны ад зямлі на фундамэнце.

Як відаць з плянаў хат, у сенцах паказана малая каморка з колцам, што азначана «месца патрэб» (клазэт). Пабудаваньне гэтакага «месца» ў сенцах хаты лічу патрэбным з многіх прычын (выгадней для здароўя, не раскідаецца гэты гной па завугольлях [2]), ня так ахалоджваецца хата і г. д.), але, каб яно адпавядала свайму прызначэньню, трэба акуратна яго збудаваць. Робіцца яма належнай велічыні, закладаецца ў яе драўляны зруб з тоўстых аполкаў змочаных гараным дзёгцем, за сьценкі іх і на дно набіваецца гліна ўтоўшчынкі ня менш 6-8 вярш. (27-35 см.). Зьверху гэтакая яма пакрываецца памостам, засыпаецца зямлёй каля ¾ арш. (½ мэтр.) і на паверхню зямлі выводзіцца толькі гарляк 1×1 арш. (70×70 см.) для ачысткі (мал. 5, В.). Гэт-

А. Варыстая печ сьпераду і яе плян.




Яма для людзкога гною.

a—глыбіня каля 2½ мэтр. пры шырыні 2 мэт. і даўжыні 2 мэт., b—гарляк для ачысткі ямы (½×½×½м.) a—латак з дошчак або ганчарных труб (20 см.×20 см.); b—зруб ямы (з 1½—2 вяршк. абапалак) c—пласт гліны навакола зрубу ямы (утоўшчкі ня менш 30 см.). d—труба для праветрываньня.

А Мал. 5. В

кая яма злучаецца шырокім горлам з вочкам у памяшканьні. Для вываду сапсаванага паветра з ямы і малой каморкі робіцца выцяжная драўляная труба. Пабудовы «месцаў патрэб» ёсьць многа спосабаў; жадаючым магчыма падаслаць дадаткова неабходныя веды.

Страха—гэта частка будынку, якая захоўвае яго ад дажджу, сьнегу, ветру, холаду і сонца. Дзеля гэтага на пабудову страхі таксама трэба зьвярнуць пільную увагу, бо яна яшчэ часта засьцерагае і ад пажару, калі зроблена належна агнятрывалай, як, напрыклад, глінасаламяная і інш. У страсе важна даць належны схіл, які практычна разьлічваецца ў залежнасьці ад шырыні будынку. Так, напрыклад, жалезная страха робіцца ўвышкі роўнай ⅓ шырыні, г. зн. калі хата мае шырыні 9 арш., то ад сталяваньня да ваўчка павінна быць ня менш

[1]) У скорым часе думаю даць падрабязнае апісаньне пабудовы печак (варыстай галяндкі і г. д.).

[2]) Кожны чалавек у сярэднім у дзень (малы і дарослы), ходзячы да паветра, выкідае каля 100 гр. цьвёрдага калу і каля 1.200 гр. рэдкага разам з мачой, што ў год складае каля 33 кгр. калу і каля 440 кгр. мачы; гэта дае каля 4 проц. азоту, такой важнай часткі пры гнаеньні. Яма ёмкасьцю на 1 чалавека на час ад ачысткі да ачысткі (вясной і восеньню) павінна быць каля 8 ведзер.—(Аўтар).

3 арш. Вокладка 3, у гонтавай страхі $\frac{1}{2}$ шырыні, у глінасаламянай вышыня роўна шырыні і г. д.

Трэба заўважыць, што, патраціўшы грошы на добрую страху, кожны гаспадар забясьпечвае сябе і сваю хату на шмат гадоў ад пажару і руйнаваньня.

Ў дадатак вышэйсказанага агульнага нарысу пабудовы хаты, на мал. № 6—А і В даюцца некаторыя пляны і малюнкі хат, якія жадаючыя могуць прыняць за ўзор, дастасоўваючы да асобных вымаганьняў і мясцовых умоў (мал. А і В).



**А. Плян хаты.** Разьмяшчэньне паасобных памешканьняў відаць на малюнку. а—вышыня пад'ема страхі. для гонтавай будзе $\frac{1}{2}$ шырыні дому, а для жалезнай $\frac{1}{3}$ або $\frac{2}{7}$ шырыні.

В. Узор іншага размеркаваньня.

А Мал. 6. В

Ў наступных нумарох часопісі «Плуг» будуць зьмешчаны некаторыя апісаньні іншых гаспадарчых будынкаў (хлявы, сьвірны, клуні, пуні, гумна і інш.).

Табліца сапаставін быўш. мер з мэтрычнай.

| | |
|---|---|
| 1 арш.—71,12 сантымэтра | 1 пуд. —16,38 кілгр.—16380 грам |
| 1 вяр. — 4,5 „ | 1 фун. — 0,409 клгр.— 409 „ |
| 1 фун. —30,48 „ | 1 вядро—12,3 літра |
| 1 цаля—25,4 „ | 1 бут. ад водкі—0,61 літр. |

**Ч. Родзевіч.**

Менск, Шырокая 25.

---

## С.-Г. ХРОНІКА.

*Правядзеньне с.-г. курсаў.* За зіму мінулага году па БССР было праведзена 260 курсаў для сялян (100 проц. ад пляна). Тэрмін курсаў быў ад 7-мі дзён да 1 м-ца. Па праграме курсы былі агульныя і спэцыяльныя. Найбольшы лік курсаў удалося правесьці Менскай акрузе (47), Віцебскай (36), Калінінскай (36), Бабруйскай (30) і Магілеўскай (26).

*Ачыстка насеньня.* На 1 красавіка па 10 акр. (акрамя Полацкай і Віцебскай) было ачышчана да 500 пуд. рознага насеньня, што складае ня больш 30 проц. ад пляну. Работа яшчэ не разгарнулася да поўнай шырыні. Можна чакаць, што праца па ачыстцы шырэй разгорнецца ў гэтым м-цы. Нездавальняючы ход працы па зерняачыстцы тлумачыцца не заўсёды належнай увагай да гэтай справы раённых устаноў (сельсаветаў і РВК).

*Барацьба са шкоднікамі с.-г. расьлін.* Дзеля барацьбы са шкоднікамі маецца па акругах і раёнах 389 апрыскваценяў (конных—131, ранцавых—258). За кошт дзяржбюджэту раёны маюць розных ядаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| парыскай зелені | 7.836 клгр. | сіняга каменю | 2.650 клгр. |
| жалезнага купаросу | 8.265 „ | фармаліну | 5.358 „ |

*Загатавана насеньня Цэнтраземскладам і Белсельсаюзам* на 1-VI-27 г.

| | | па пляну | | | па пляну |
|---|---|---|---|---|---|
| канюшыны | 15.690 п. | 54 % | лёну-даўгунца | 12.000 „ | 58 % |
| цімафейкі | 2.037 „ | 68 „ | аўса-звычайнага | 212.000 „ | 70,7 „ |
| сэрадэлі | 1.373 „ | 9,3 „ | аўса-сартовага | 1.650 „ | 13,5 „ |
| выкі | 32.082 „ | 37 „ | кораньпл. на суму | 40.036 „ | 66 „ |
| лубіну | 5.670 „ | 12,6 „ | гароднага і інш. | 36.823 „ | 105 „ |

Нарыхтоўка насеньня яшчэ вядзецца. Хутка % выпаўненьня пляну будзе значна павышан асабліва выкі, лубіну і сэрадэлі.

*Загатоўлена ўгнаеньняў на I-IV-27 г. у тонах (тона=61 п.)*

| | | па пляну | | | па пляну |
|---|---|---|---|---|---|
| супэрфосфату | 2.883 тон*) | 37,7 % | тамасаўкі | 990 тон | 117 % |
| касьцяное мукі | 1.006 „ | 51,8 „ | калійнай солі | 305 „ | 116,9 „ |
| фосфарытнае мукі | 137 „ | 25 „ | салетры | 111 „ | 300 „ |

Попыт на мінэральныя ўгнаеньні будзе здаволен поўнасьцю, бо больш ўсяго яны ідуць пад азімыя.

*Трактары.* Па пляну мяркуецца ў гэтым годзе купіць для БССР 45 трактараў (30 праз Цэнтраземсклад і 15 праз Белсельсаюз). На I-IV Белсельсаюзам куплена 2 трактары.

*Да пашырэньня пасеву лёну.* 1. 8-III-27 г. выдана пастанова СНК СССР, якою прадугледжваецца шэраг мерапрыемств у мэтах разьвіцьця ільнаводства і пашырэньня пасеўнай плошчы пад ільном.

2. На падставе гэтай пастановы для Беларусі адпушчана: а) 350 тысяч руб. для заключэньня кантрактаў з сялянамі на пасеў лёну з выдачаю ім бяспроцантных авансаў па 2 р. 50 к. на кожны закантрактаваны пуд валакна. Грошы будуць раз'асыгнаваны на Віцебскую, Полацкую, Магілеўскую, Аршанскую, Калінінскую, Барысаўскую і Гомельскую акругі.

б) 100.000 руб. для выдачы на 2 ураджаі 6 проц. крэдыту бядняцкім гаспадаркам для забясьпечаньня іх звычайным насеньнем лёну. Крэдыт гэты будзе пашыран на ўсе акругі БССР.

3. Насеньня лёну-даўгунцу пастаноўлена загатовіць 30.000 пуд.

4. Усё пасеўнае насеньне будзе адпушчацца сялянам па 1 р. 95 к. за пуд і ў крэдыт.

5. З сакавіка м-ца цэны на ільняное валакно павышаны ў сярэднім на 70 кап. на пуд і згодна той-жа пастановы цэны ня будуць зьніжаны на будучы сэзон.

6. Даход ад пасеўнай плошчы пад лёнам пры абкладаньні с.-г. падаткам будзе лічыцца ў палавінным разьмеры.

7. На восень мяркуюцца конкурсы па ільнаводству з выдачаю прэміяў сялянам за лепшае вядзеньне ільнаводства. Акрамя таго, пры продажы вышэйшых гатункаў лёну мяркуецца даваць надбаўку да існуючай рынкавай цаны.

---

**Выданьне Наркамзему.**

Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Сыц. Тупяневіч.*